КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 34 (355) ◂ 13 верасня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144







**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**СЛАВУТЫ МАЭСТРА ПУЗЫНЯ**

Нарыс Віталя Сямашкі

З НАГОДЫ

# ЗАСЦЕРАГЧЫСЯ АД НАВАЛЬНАГА

Сяргей ПУЛЬША

**Шмат хто з цікавасцю глядзеў на выбары мэра Масквы. Бойка Давіда і Галіяфа заўсёды цікавая.**




Выбары прайшлі, непераканаўчую перамогу ў першым туры атрымаў выконваючы абавязкі мэра Сяргей Сабянін. Асноўны ягоны канкурэнт, апазіцыянер Аляксей Навальны, кажа пра фальсіфікацыі і патрабуе другога туру выбараў. Амаль як у Беларусі!

Ну і, як і ў Беларусі, ніхто не збіраецца праводзіць перападлік галасоў. Афіцыйныя вынікі абвешчаныя, Сабянін перамог у першым туры. У Сабяніна 51,37%. У Навальнага — 27,24%.

Поспех Навальнага неверагодны. За тыдзень да дня выбараў сацыёлагі давалі Навальнаму толькі каля 10% галасоў і казалі пра тое, што, калі Навальны набярэ 1–2%, гэта можна лічыць канцом ягонай кар'еры. Навальны пабіў не толькі песімістычныя, але і самыя аптымістычныя прагнозы.

А ў Беларусі за маскоўскімі выбарамі глядзела як апазіцыя, так і ўлада. Апазіцыя спадзявалася на перамогу Навальнага. Бо мэрства Навальнага давала б някепскі штуршок у прэзідэнты Расіі. Навальны павінен скласці канкурэнцыю Пуціну. А калі ён дэмакрат і супраць Пуціна, дык беларуская апазіцыя аўтаматычна лічыць яго «сваім».

Таму класная для Навальнага 27 працэнтаў ягоныя беларускія прыхільнікі ўспрынялі з нейкім расчараваннем. Некаторыя палітыкі нават заявілі, што, калі б ім далі такія ўмовы выбараў, якія былі на маскоўскіх, то беларускі апазіцыйны кандыдат набраў бы больш за трациню галасоў і «парваў» бы Сабяніна на шматкі.

Спадары з апазіцыі забыліся, што ў нас таксама былі ўмовы кшталту маскоўскіх. І чым яны займаліся? Канешне, быў вельмі важны для іх байкот парламенцкіх выбараў 2000 года, бо Лукашэнка змяніў Канстытуцыю ў 1996-м. І тады ніхто не думаў, што ў 2001-м, праводзячы прэзідэнцкія выбары па той жа зменenай Канстытуцыі, усё роўна давядзецца ўладу «легітымізаваць». Ну а ў 2006-м сістэма была ўжо адладжаная, і рэферэндумам 2004 года ў тым ліку.

Калі хто кажа пра тое, што «мы б перамаглі», то таму варта ўспомніць, як бабулька дзяўчынкай была.

З не меншай цікавасцю, пэўна, за выбарамі маскоўскага мэра назіралі ў адміністрацыі нашага прэзідэнта. Прычым, цікавасць была да абодвух бакоў. Па-першае, было цікава, чаму ж маскоўскі выбаркам навучыўся ў беларускага? А па-другое, шмат хто казаў, што Навальны — копія Лукашэнкі ў маладосці. Найперш, у іх адна «фішка» — барацьба з карупцыяй. Праграма ў Навальнага таксама: папулізм з лёгкім дамешкам нацыяналізму: рускіх прыгнятаюць, Каўказ праблемны, візы для жыхароў азіяцкіх рэспублік і гэтак далей.

Суд над Навальным, які прызнаў яго 18 ліпеня вінаватым у крадзяжы ў буйных памерах, толькі дадаў аргументаў да параўнання на карысць Лукашэнкі. Маладога беларускага кандыдата ў прэзідэнты таксама і «забіць спрабавалі», і пінжак яму парвалі ў Доме ўрада, і ўвогуле ўсяляк зацiскалі. Такім чынам, у абодвух склалася такая «аўра пакрыўджаных», а пакрыўджаных «славянская душа» любіць.

Некаторыя «байцы» ўзгадвалі падзеі маладосці і думалі, ці здольная сістэма выбараў, выбудаваная ў Беларусі, стрымаць такога «новага Лукашэнку»? Ці многа з таго, што ўзялі ў беларусаў расійскія ўлады, трэба для таго, каб перамог «патрэбны» кандыдат?

Аказалася, не так ужо шмат і трэба. Розніца ў тым, што ў Маскве галасы пакуль што лічаць. Прынамсі, на такім «мясцовым» узроўні. Інакш Сабянін бы пераканаўча перамог Навальнага, набраўшы 83% галасоў выбаршчыкаў, а прагаласавала б 75%, а не каля 32% масквічоў.

Маскоўскія ўлады ўзялі толькі два ноў-хаў беларускіх выбараў. Гэта галасаванне на даму, якое праверыць немагчыма, і «вечаровы наплыў». Назіральнікі адзначалі, што спісы «надомнага» галасавання вельмі «раздутыя» і складалі больш за 100 тысяч чалавек, альбо каля 4,5% насельніцтва, якое мае права голасу. Пры яўцы ў 32% гэта вельмі істотная лічба, асабліва ўлічваючы, што 80% «надомнікаў» «прагаласавалі» за Сабяніна. Ну, і, канешне, «адміністратыўны рэсурс», прымус і ўсё такое.

Карацей, нават калі галасы лічаць, — гэта яшчэ не панацэя. Але тут хаця б ёсць шанец схапіць фальсіфікатараў за руку, што і спрабуе зараз зрабіць Навальны.

Зараз у Беларусі усцешаныя ўсе — ад апазіцыянераў да ўлады. «Маскоўскія» не да канца, але ўсё ж вывучылі ўрокі беларускіх галасаванняў. Мажліва, яны яшчэ падвучацца, і ўсё ў іх будзе таксама «ціп-топ» з лічбамі.

Сапраўды, з аднаго боку, маскоўскія мэрскія выбары падобныя да беларускіх. А з другога — усё так і было задумана. Канешне, Навальны можа радавацца сваім 27 працэнтам. Радуецца сваёй перамозе Сабянін. Усцешаны і Пуцін — ён прадэманстраваў усяму свету, што выбары ў Расіі — гэта свята дэмакратыі, што ніхто ў перадвыбарчы працэс не ўмешваўся, сам ён ані слова на гэты конт не сказаў і гэтак далей.

Але адно істотнае маскоўскае ноў-хаў важнае для беларускай улады. Колькі б Навальны не цешыўся сваімі 27 працэнтамі, зараз стаць прэзідэнтам Расіі яму ніяк «не каціцца». Бо ў нас кандыдатаў на прэзідэнты пасадзілі адразу пасля выбараў. А вось Навальнаму вынеслі прысуд напярэдадні падзеі. І таму зараз, пасля разгляду апеляцыі, ён паедзе на пэўны час у Сібір елкі лобзікам пілаваць.

За час ягонай адсутнасці 27% «рассасуцца», і яму зноў трэба будзе пачынаць заваёўваць сваю папулярнасць з нуля.

А за гэты час у выбарчых тэхналогіях беларусы прыдумаюць нешта новае, каб засцерагчыся ад магчымага «мясцовага Навальнага». І, вядома ж, падзеляцца ведамі з братамі-расіянамі.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## АДАМ МІХНІК ПРОСІЦЬ ПРАБАЧЭННЯ ЗА АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

«Прашу прабачэння за Алеся Бяляцкага», — такія словы прагучалі з вуснаў апазіцыйнага дзеяча часоў Польскай Народнай Рэспублікі, галоўнага рэдактара «Gazety Wyborczej» Адама Міхніка. Ён прыгадаў тое, што менавіта Польшча спрычынілася да зняволення беларускага праваабаронцы.

«Хачу папрасіць, — сказаў ён, — прабачэння ад імя маёй дзяржавы за гэты абсалютна ганебны скандал, звязаны са зняволеннем Алеся Бяляцкага. Я сам быў сведкам таго, як міністр замежных справаў Польшчы прасіў прабачэння за гэта, калі ўручаў узнагароду жонцы Алеся Бяляцкага. Такім чынам, яны выдатна разумеюць, што «стрэлілі сабе ў калена»... Кожны, хто кажа пра суверэнную Беларусь, для Масквы з'яўляецца нацыяналістам», — адзначыў Адам Міхнік.

Алесь Бяляцкі адбывае 4 гады і 6 месяцаў зняволення па абвінавачанні ва ўтойванні прыбыткаў у асабліва буйным памеры. Інфармацыю пра замежныя рахункі Бяляцкага беларускім органам перадалі Польшча і Літва. Праваабаронца не прызнаў сваёй віны. Усе грошы з названых рахункаў прызначаліся на праваабарончую дзейнасць у Беларусі.

**Беларускае Радыё Рацыя**

ЕС — БЕЛАРУСЬ

## ФЮЛЕ: ЕС ПРАПАНУЕ БЕЛАРУСІ

**У Еўрапарламенце ў Страсбургу адбылося абмеркаванне справаздачы дакладчык па Беларусі Юстаса Палецкіса.**

Дакладчык Еўрапарламенту па Беларусі Юстас Палецкіс адзначыў, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі працягвае заставацца складанай. Разам з тым ён лічыць, што старшынства Літвы ў Еўрапейскім саюзе і запланаваны на лістапад саміт «Усходняга партнёрства» ў Вільні трэба скарыстаць для паляпшэння адносін з афіцыйным Мінскам і аднаўлення палітычнага дыялогу. Але ўмовай для гэтага павінна быць вызваленне ўсіх палітычных вязняў.

Еўракамісар адзначыў, што 7 беларускіх палітвязняў дагэтуль застаюцца за кратамі. «Мы атрымліваем паведамленні, якія нас вельмі непакояць, пра ўмовы зняволення, пра адсутнасць доступу да адвакатаў і абмежаваныя кантакты з сем'ямі», — сказаў ён.

Ён падкрэсліў, што еўрапейскія санкцыі па-ранейшаму застаюцца для беларускіх чыноўнікаў з-за парушэнняў правоў чалавека і асноўных свабодаў.

Фюле зноў нагадаў, што ў Беларусі не ўведзены мараторый на смяротнае пакаранне, што існуе пераслед актывістаў грамадзянскай супольнасці і апанентаў рэжыму. Еўракамісар заявіў, што Еўрапейскі саюз будзе рабіць больш інтэнсіўным дыялог з грамадзянскай супольнасцю, уключна з дыялогам у справе мадэрнізацыі.

Гэты дыялог, паводле яго, мог быць патэнцыйным каналам для камунікацый з беларускай грамадзянскай супольнасцю і з уладамі. «Мы працуем з МЗС Беларусі і з прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці. Пасля сустрэчы з міністрам замежных справаў Беларусі Мінск зрабіў шэраг дыпламатычных крокаў дзеля паляпшэння адносінаў з Еўрасаюзам, гэта ўключае, напрыклад, пытанне адкрыцця шведскай амбасады ў Мінску, і мы вітаем гэта», — сказаў еўракамісар.

12 верасня Еўрапейскі парламент ухваліў даклад Палецкіса па сітуацыі ў Беларусі.

**Паводле Радыё «Свабода»**

АРТ-ТЭРАПІЯ

## ПРАЕКТ «СТУДЫЯ «ПАЛІТРА»

**Марат ГАРАВЫ**

**Выстава, прысвечаная 10-годдзю творчай рэабілітацыйнай студыі, адкрылася вечарам 10 верасня ў Мінску, у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.**

Праект адлюстроўвае плённую працу студыі «Палітра», якая дзейнічае пад кіраўніцтвам Галіны Кучарэнка. Многія людзі з абмежаванымі магчымасцямі, якія маюць патрэбу ў падтрымцы, займаюцца ў студыі па ўнікальнай праграме актыўнай рэабілітацыі «Арт-тэрапія».

Дзейнасць «Палітры» даказвае, што рэабілітацыя праз камунікацыю і творчую дзейнасць магчымая, што людзі з абмежаванымі магчымасцямі могуць знайсці свой годны і паўнавартасны шлях.

Сёння «Палітра» мае шмат паспяховых кірункаў дзейнасці: працуе мастацкая студыя, створаны тэатр, вядзецца актыўная выставачная дзейнасць. Вялікая ўвага надаецца прыродатэрапіі і камунікаванню. Акрамя таго, у студыі праводзяцца заняткі па пластыцы руху і танцах, вандроўкі па славутых мясцінах для знаёмства з помнікамі нацыянальнай гістарычнай спадчыны, наведванні мастацкіх галерэй, вечарыны, святы, сябрам творчага аб'яднання аказваецца індывідуальная псіхалагічная дапамога.

Як адзначалася падчас адкрыцця выставы, непрафесійнае, інтуітыўнае, спантаннае мастацтва заўсёды выклікала асаблівую цікавасць з боку гледачоў і калекцыянераў, а таксама даследчыкаў. Мастацкі кірунак, які шырока распаўсюдзіўся ў сярэдзіне XX стагоддзя — арт-брут, ці мастацтва аўтсайдараў, — з'яўляецца значным феноменам і ў сучасным творчым асяроддзі. Гэтае мастацтва не арыентуецца на каноны. Аўтары не звяртаюцца да агульнапрынятых умоўных знакаў, а застаюцца ў рамках асабова-суб'ектыўнага ўспрымання рэчаіснасці або звяртаюцца да эпізодаў штодзённага жыцця.

Сёння мастацтва аўтсайдараў знаходзіцца ў неразрыўнай сувязі з арт-тэрапіяй, якая служыць развіццю і гарманізацыі асобы. Кірункі арт-тэрапіі адпавядаюць відам мастацтва, а колькасць тэхнік фактычна не абмежаваная.

У экспазіцыі дэманструюцца каля 40 мастацкіх прац сяброў студыі. Падчас выставы, якая працуе да 21 верасня, можна пазнаёміцца з тэатральным, канцэртным і арганізацыйным жыццём «Палітры», а 19 верасня — семінар «Арт-тэрапія сёння».



ЗАЯВА

## АГП СУПРАЦЬ РАСІЙСКІХ ВАЕННЫХ БАЗ

**Генадзь КЕСНЕР**

**12 верасня Анатоль Лябедзька паведаміў, што падрыхтавана заява ў Канстытуцыйны суд з нагоды размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскай ваеннай авіябазы.**

Дакумент будзе перададзены ў КС на наступным тыдні. Заяву падпісалі старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, а таксама былыя кіраўнікі Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч і Мечыслаў Грыб.

Па словах Анатоля Лябедзькі, зварот падрыхтаваны АГП з удзелам экспертнай супольнасці. Напрыклад, у працы над дакументам удзельнічаў экс-суддзя Канстытуцыйнага суда доктар юрыдычных навук прафесар Міхаіл Пастухоў, які ачольваў працоўную групу.

«Мы не спяшаемся прагназаваць, якое будзе рашэнне Канстытуцыйнага суда, але мы выкарыстоўваем усе легальныя і легітымныя магчымасці, каб прыцягнуць увагу да гэтай праблемы», — адзначыў лідар АГП.

Як адзначаецца ў звароце, Беларусь, допускаючы на сваёй тэрыторыі размяшчэнне ваеннага складніку іншай дзяржавы, тым самым парушае прынцып нейтральнасці сваёй дзяржавы (ч. 2 арт. 18 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь). «Размяшчэнне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь расійскіх ваенных баз, — акцэнтуюць увагу аўтары, — закранае асновы нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. Таму мы прапануем разгледзець гэтае пытанне Канстытуцыйным судом Рэспублікі Беларусь з пазіцыі Канстытуцыі і міжнародных дамоваў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь».

Апроч таго, паведаміў Лябедзька, зараз у працы праект дакумента на імя прэзідэнтаў Расіі Уладзіміра Пуціна і ЗША Барака Абамы, а таксама прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Дэвіда Кэмерана. «Гэта палітычны зварот, і мы хацелі б палітычнай рэакцыі. Мы нагадваем пра Будапешцкі мемарандум, падпісаны ў 1994 годзе, дзе зафіксаваны гарантыі бяспекі для Рэспублікі Беларусь. Пад гэтым дакументам стаяць подпісы кіраўнікоў згаданых трох дзяржаваў. Ужо пайшоў працэс размяшчэння расійскай ваеннай авіябазы ў Лідзе, і мы лічым, што гэта ёсць парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што гэтыя дзеянні супярэчаць мемарандуму, — падкрэсліў палітык. — Мы просім, каб яны на палітычным узроўні яшчэ раз пацвердзілі, што гэтыя краіны і надалей нясуць на сабе абавязак гаранта бяспекі для Беларусі».

ЗВАРОТ

## ЮБІЛЕЙ БНФ

**19 кастрычніка спаўняецца 25 гадоў ад моманту стварэння Беларускага народнага фронту «Адраджэння» — арганізацыі, якой, бясспрэчна, належыць гістарычная роля ў першай спробе дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі і сцвярджэнні дзяржаўнага суверэнітэту наша краіны.**

З нагоды юбілейнай даты сябры Арганізацыйнага камітэта БНФ, утворанага на прапанову Зянона Пазьняка і Васіля Быкава 19 кастрычніка 1988 года на пасяджэнні ў будынку касцёла св. Сымона і Алены (тагачаснага Дома кіно), звярнуліся да грамадзян Беларусі са зваротам.

«Ужо ў першай сваёй заяве, — нагадваюць яго стваральнікі, — Аргкамітэт выступіў за «перабудову грамадства на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму», за «суверэнітэт Беларусі», за «падпарадкаванне эканомікі інтарэсам чалавека», за «сацыяльную справядлівасць», за «прававую дзяржаву», за «экалагічна чыстую Беларусь», за «адраджэнне і дзяржаўнасць беларускай мовы». А ў першай Праграме была абвешчаная галоўная мэта БНФ — «свабодны чалавек у адроджанай незалежнай Беларусі».

На меркаванне аўтараў звароту, з пазіцый сённяшняга дня «дзякуючы актыўнасці жывога беларускага грамадства» і намаганням фронтаўцаў — дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га склікання і мясцовых саветаў, і тых, што ў розных гарадах узначалілі барацьбу народа за будучыню сваёй краіны, беларусам удалося вырашыць галоўную гістарычную задачу — 25 жніўня 1991 года заканадаўча замацаваць незалежнасць Беларусі і дамагчыся яе міжнароднага прызнання».

І хаця, адзначаецца ў звароце, «далейшае ўнутрыпалітычнае развіццё Рэспублікі Беларусь, неспрыяльная геапалітычная сітуацыя пакуль не дазволілі належным чынам здзейсніцца ўсяму, пра што мы марылі чвэрць стагоддзя таму»... мы маем сотні тысяч аднадумцаў, фронтаўцаў паводле сваіх перакананняў».

Аўтары звароту заклікаюць усіх грамадзян Беларусі, усіх беларусаў, якія падзяляюць фронтаўскія каштоўнасці і не збіраюцца мірыцца з таптаннем або дыскрэдытацыяй фронтаўскіх ідэалаў, ушанаваць юбілей заснавання Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», вярнуць духоўнае і інтэлектуальнае лідарства тым колам грамадства, якія адстойваюць незалежнасць, свабоду і нацыянальна-культурнае Адраджэнне як непарыўныя ідэалы».

Зварот падпісалі: ***Рыгор Барадулін***, ***Аляксей Марачкін***, ***Мікола Купава***, ***Ніл Гілевіч***, ***Анатоль Грыцкевіч***, ***Пётра Садоўскі***, ***Вінцук Вячорка***, ***Генадзь Тумаш***, ***Алесь Суша***, ***Анатоль Варава***, ***Павел Змітрук***.

Далучыўся да звароту ***Зянон Пазьняк***. З Бабруйскай калоніі ўхвалу даслаў ***Алесь Бяляцкі***. «Лічу, — напісаў ён, — што адзначыць 25-я ўгодкі пасяджэння ў Чырвоным касцёле — гэта вельмі слушная задума. Зварот падтрымліваю».

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЗНАЙШЛІ ВІНАВАТЫХ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**За правал «беларускага эканамічнага цуда» адкажуць усе. Калі ўлетку можна было прымаць непапулярныя рашэнні, то зараз настала восень, і прыйшоў час патлумачыць усім, хто адказны за тое, што ў нас выраслі кошты, падае прыбытак, і чаму мы зноў абмяркоўваем неабходнасць дэвальвацыі. Арыгінальнасцю мы не адрозніваемся: ва ўсім вінаватыя ворагі.**

Валюта ў краіну не ідзе, таму што вінаватыя «расійскія нягоднікі». Пра гэта, каментуючы сітуацыю з арыштам Баўмгертнера, заявіў Аляксандр Лукашэнка, разглядаючы ў аўторак кадравыя пытанні: «Я ўжо пра гэта публічна выказаўся. Хачу канкрэтызаваць. Сёння ў сувязі з непрыстойнымі дзеяннямі гэтых расійскіх нягоднікаў у нас склаліся пэўныя праблемы з рэалізацыяй калійных угнаенняў».

І растлумачыў: «Пытанне не толькі ў тым, што гэта наша асноўная кампанія (хоць гэта не асноўны падаткаплацельшчык, але вельмі буйны). Пытанне ў тым, што гэта ўсё ж такі калектыў, горадаўтваральнае прадпрыемства, твар нашай краіны. Мы нямала ўклалі працы і сродкаў, каб пасля 80-х і 90-х прывесці ў пачуццё гэта прадпрыемства, горад-прыгажун пабудаваны. І ўвогуле, у нас у краіне шахцёраў, акрамя іх, больш няма», — патлумачыў прэзідэнт.

Тут цікава толькі адно. Калі БКК стваралася ў 2008 годзе, то тады «Беларуськалій» не быў «тварам нашай краіны»? Ці не было ў нас «горада-прыгажуна»? Калі Аляксандр Лукашэнка персанальна прымаў Керымава ў сваёй рэзідэнцыі і прапаноўваў яму ва ўласнасць цэлую вёску, ён не разглядзеў, што гэта «расійскі нягоднік»? Мы ўклалі прорву сродкаў, каб стварыць БКК сумесна з «Уралкаліем», дзеля чаго парушылі ранейшую схему Міжнароднай калійнай кампаніі, а зараз што? Прачнуліся?

Трэба ад самага пачатку больш уважліва глядзець на партнёраў. Ці на тых, хто імі ўяўляюцца. Каб потым не было «пакутліва балюча за бессэнсоўна пражытыя гады».

Гэта тычыцца не толькі БКК. Падаецца, што нас з нейкім спазненнем накрыла другая хваля фінансава-эканамічнага крызісу. У той час, як Еўропа з крызісу ўжо выпаўзае, мы далі нырца яшчэ глыбей.

Кіраўнік Мінпрама Дзмітрый Кацярыніч паведаміў, што найбуйнейшыя вытворцы прамысловай прадукцыі сістэмы Мінпрама скончаць 2013 год падзеннем вытворчасці. Паводле яго дадзеных, зніжэнне вытворчасці ў холдынгу «Беларуская металургічная кампанія» складзе 10%, МТЗ — 2,9%, БелАЗ — 7,9%. Холдынг «БелаўтаМАЗ» спрацуе ў нуль.

У якасці апраўдання Кацярыніч спаслаўся на скарачэнне пакупніцкага попыту, зніжэнне цэн на сусветным рынку на сыравінныя рэсурсы, што паўплывала на змяншэнне аб'ёму выручкі вядучых горназдабыўных кампаній і, адпаведна, прывяло да скарачэння закупак кар'ерных самазвалаў.

«Акрамя таго, спад дзелавой актыўнасці на міжнародных рынках металапрадукцыі ў 2013 годзе прывёў да зніжэння коштаў на металапрадукцыю БМК на асноўных рынках збыту СНД і далёкага замежжа. Увядзенне з 1 студзеня 2013 года ў РФ новых экалагічных нормаў Еўра–4 на грузавую тэхніку, зніжэнне ўзроўню мытных бар'ераў у сувязі з уступленнем Расіі ў СГА прывялі да ўзмацнення жорсткасці канкурэнцыі і падзення продажаў на традыцыйных рынках Расійскай Федэрацыі», — наракае міністр.

Выбачайце, а раней пра гэта не ведалі? Ведалі ўсё: і пра тое, што ўступленне Расіі ў СГА прывядзе да ўзмацнення канкурэнцыі. І пра тое, што Расія пяройдзе на Еўра–4, таксама ведалі даўно. Дык чаму ж не прынялі адпаведных захадаў, каб захаваць рынкі? Не здолелі альбо проста не жадалі?

Узнікае ўражанне, што беларускія кіраўнікі альбо надзвычай некампетэнтныя, альбо свядома сабе рылі яму, не зважаючы на элементарныя перасцярогі. Нармальны кіраўнік назірае за тэндэнцыямі рынку, чаго зроблена проста не было. Здаецца, урад папросту закрыў вочы і вушы з надзеяй: «Ану пранясе!» Не пранесла.

Расплачвацца за гэта будуць шараговыя беларусы. Здавалася, калі беларускую прадукцыю грамадзяне не набываюць, значыць, трэба паляпшаць прадукцыю: ад якасці да коштаў. Але ж паляпшаць — гэта не наш шлях. Значна лягчэй папросту забараніць увозіць у Беларусь замежную прадукцыю, каб не заставалася іншага выйсця, акрамя як «купляць беларускае».

Лукашэнка вельмі эмацыйна выказаўся, калі запатрабаваў увесці пошліну для беларусаў, якія выязджаюць за мяжу дзеля шопінгу. «Нас крытыкуюць — бедная, жабрацкая краіна, а нашы людзі да 3 мільярдаў долараў у год вывозяць за мяжу ў Еўрасаюз і ўвозяць барахло, якое мы таксама выпускаем. Дык вось я даўно даручыў, аж да таго, што выязджаеш за межы, усё роўна за чым, заплаці выязную пошліну. Гэта будзе так: мы цябе на мяжы абслугоўваем — 100 долараў з носу плаці і едзь за мяжу», — сказаў Лукашэнка.

Калі нашы грамадзяне закупляюць у Еўрасаюзе «барахло, якое мы таксама выпускаем», найперш не пра пошліны трэба думаць, а пра тое, каб не выпускаць барахло.

Але няма большага ворага, чым паслужлівы… Віцэ-прэм'ер Беларусі Пётр Пракаповіч праз пяць дзён заявіў, што пытанне аб выязных пошлінах «разглядаецца ва ўрадзе, мы яго старанна вывучаем». «Разглядаюцца розныя магчымыя формы рашэння пытання. Дзесьці на працягу месяца мы дамо адказы на ўсе пытанні», — сказаў Пракаповіч. Пры гэтым ён запэўніў, што пошліна не закране турыстаў, а будзе дзейнічаць для тых, хто часта ездзіць за пакупкамі з мэтай перапродажу тавараў у Беларусі.

Кіраўнік Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька таксама паспяшаўся «прагнуцца», выказаўшы меркаванне, што выязны пошліны прадыктаваныя інтарэсамі большасці і не будуць з'яўляцца ўшчамленнем мільёнаў беларусаў. «Не ўсе з'язджаюць кудысьці... Таму гэта не з'яўляецца ўшчамленнем. Калі гэта будзе, гэта не будзе з'яўляцца ўшчамленнем мільёнаў грамадзян», — запэўніў чыноўнік.

А давайце ўвядзем падатак на аўтамабілі — 100 долараў на месяц? Прэзідэнт таксама пра тое казаў, і мільёны людзей аўтамабіля не маюць, гэта не будзе з'яўляцца «ўшчамленнем». Мільёны грамадзян не гадуюць свіней, дык, каб не ўшчамляць тых, хто гадуе жывёлінку, давайце ўвядзем падатак на «бясвінных»? Ёсць шмат таго, чаго не робяць мільёны, але гэта не прычына, каб уводзіць падатак на іншых. Прынамсі, мільёны грамадзян не з'яўляюцца мэрам Мінска. Давайце, спадар Ладуцька, вас абкладзем падаткам на мэрства?

Як гэта будзе працаваць, мы яшчэ пабачым. Спадзяюся, прэзідэнт зразумее, што глупства атрымліваецца.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ІГАР СЕЧЫН

Прэзідэнт «Раснафты» Ігар Сечын сустрэўся з Аляксандрам Лукашэнкам. Тон гэтай сустрэчы быў вельмі цікавы. Лукашэнка падзякаваў Сечыну за тое, што ён заступіўся за Беларусь па пытаннях пастаўкі нафты з Расіі. У адказ Сечын падзякаваў Аляксандру Лукашэнку за ўвагу да сумесных праектаў, якія рэалізуюцца на тэрыторыі Беларусі. Вельмі цікава падзякаваў.

У прыватнасці, паведаміў, што раніцай 11 верасня правёў прадметныя перамовы са старшынёй канцэрна «Белнафтахім» Ігарам Жылінам. Затым дакладна акрэсліў канцэпцыю супрацоўніцтва з Беларуссю: «Мы дамаўляемся аб развіцці нашага супрацоўніцтва па ўсіх напрамках. Крыху пазней я вам дакладу аб тых канкрэтных праектах, якія мы хацелі б развіваць. Безумоўна, пастаўкі матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў і прадуктаў харчавання — гэта таксама адзін з напрамкаў магчымага супрацоўніцтва. І мы запрашаем беларускіх вытворцаў удзельнічаць у тэндэрах, якія праводзіць наша кампанія. Па той наменклатуры, якая вырабляецца ў Беларусі, мы будзем рады бачыць і абсталяванне, і прадукты. Мы дастаткова шмат закупляем для нашых супрацоўнікаў. У кампаніі «Раснафта» цяпер працуюць каля 300 тысяч чалавек», — дадаў Ігар Сечын.

Рыторыка Сечына здзіўляе. «Я вам дакладу», «У кампаніі працуюць 300 тысяч чалавек»... Як быццам Сечын — ужо і не Сечын, а адзін з беларускіх міністраў. Можа, Сечын будзе наступным прэм'ерам Беларусі?



### ПЁТР ПРАКАПОВІЧ

Былы галоўны банкір, а цяпер віцэ-прэм'ер, Пётр Пракаповіч у адстаўку не збіраецца.

Адказваючы на пытанне «Еўрарадыё», ён заявіў, што ва ўрадзе «вельмі маладыя кадры». «Скажу, што сярэдні ўзрост тых упраўленняў, якія я курырую, — 31 год! У нас ёсць кіраўнікі па 30–35 гадоў, міністры па 45. Гэта пытанне такое — як чалавек гатовы. Залежыць ад яго магчымасцяў і здольнасцяў».

Аднак, па словах чыноўніка, кваліфікаваных маладых спецыялістаў у органах дзяржкіравання папросту не хапае. «Іх проста няма! Вельмі мала! Калі казаць аб кадравай палітыцы — наадварот, у нас кірунак, каб былі маладыя ўсюды. Але пытанне аб высокакваліфікаваных кадрах. Нельга паставіць міністрам адразу пасля ВНУ, каб ён сядзеў і нічога ў гэтай сферы не ведаў. Каб стаць міністрам у адукацыі, трэба папрацаваць дырэктарам школы. Гэта вялікая адказнасць. Трэба даказаць, што ты лепшы за іншых. І другое пытанне — заробак. Шмат хто хоча пайсці ў камерцыйную структуру, бо там вялікія зарплаты», — сказаў Пракаповіч.

Што да ўласнай адстаўкі, то сыходзіць з дзяржслужбы Пракаповіч не збіраецца: «Я не сыходжу, бо пакуль спраўляюся. Калі не буду спраўляцца — адразу адправяць».

А можа не трэба чакаць новай дэвальвацыі ?

### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА



Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка прайграла ў фінале Адкрытага чэмпіянату ЗША па тэнісе. Пераможцай стала амерыканка Серэна Уільямс. Лік — 7:5, 6:7, 6:1.

Першы сэт беларуска прайграла без пытанняў (5:7), у другім павяла 1:0, потым аддала чатыры геймы (1:4), але здолела сабрацца і зраўняць лік (5:5, 6:6), перавёўшы сэт у тай-брэйк і бліскуча яго завяршыла — 7:6 (8:6).

Трэці сэт Уільямс выйграла 6:1.

Тым не менш, нягледзячы на пройгрыш, Азаранка атрымала вялікія прызавыя, якія склалі $1,3 мільёна.

Год таму Азаранка і Уільямс ужо гулялі ў фінале, і Вікторыя ў выніку прайграла US Open, вёўшы ў трэцім вырашальным сэце з лікам 5:3.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# АДСУТНАСЦЬ СКАРГАЎ ЯК КРЫТЭР ЭФЕКТЫЎНАСЦІ

Сяргей НІКАЛЮК

**Сувязь з гістарычным мінулым, як правіла, вітаецца, аднак у рэальнасці не ўсё так адназначна.**




У сацыёлага Вольгі Бяссонавай чытаем: «Яшчэ ў часы «палюддзя» рускія князі выпраўляліся з дружынай да падуладных плямёнаў, каб, як трапна адзначыў Салаўёў, «выконваць свае абавязкі датычна народанасельніцтва». Паводле скаргаў сваіх падданых князь чыніў суд і расправу, змяняў велічыню даніны».

Кіеўская Русь даўно засталася ў мінулым, але прынцыпы кіравання дзяржавай, выпрацаваныя нашымі продкамі ў IX–XII стагоддзях, усё яшчэ актуальныя ў сучаснай Беларусі.

Так, палюддзе (штогадовы аб'езд князя са сваёй дружынай падуладных земляў) трансфармавалася ў наведванне адзіным палітыкам (АП) прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, будаўнічых пляцовак і іншых знакавых аб'ектаў. На афіцыйнай мове такія паездкі прынята называць «працоўнымі візітамі».

Галоўная мэта палюддзя — збор даніны. Звернемся да прэс-рэлізу, прысвечанага наведванню АП ААТ «Мотавела»: *«Мы должны видеть динамику каждый год: объемы производства и самое главное — деньги».* З гэтай цытаты пачынаецца прэс-рэліз. Не магу адмовіць сабе ў задавальненні, каб не прывесці наступны сказ: «Прэзідэнту даклалі пра вынікі фінансава-гаспадарчай дзейнасці і перспектывы развіцця прадпрыемства».

Прадпрыемства прыватнае, а гаворка пачынаецца з фінансаў, з выканання абавязкаў, узятых на сябе ўладальнікамі ААТ перад дзяржавай. Усё заканамерна: у межах мадэлі, якая склалася ў Кіеўскай Русі, не працоўць, а служаць. Выключэнняў з гэтага правіла не бывае, і форма ўласнасці тут не адыгрывае асаблівай ролі.

Падмацую сказанае адпаведным выказваннем АП: *«Если, допустим, директор моторного завода — слесарь, значит, он пойдет работать слесарем или бригадиром слесарей, если Семашко (першы віцэ-прэм'ер) конструктор, он пойдет работать конструктором, если захочет».*

А куды ён падзенецца! Зразумела, захоча. Для някемлівых АП спецыяльна патлумачыў: ён не дапусціць стварэння якіхнебудзь камерцыйных структур, якія б адважыліся ўзяць на працу чыноўнікаў, што не выканалі свае абавязкі: *«Теплых мест, а не дай Бог коммерческих структур, для вас не будет, потому что эта коммерческая структура будет уничтожена мгновенно, если они возьмут на работу без моего ведома людей из кадрового реестра».*

Здавалася б, які абшар для Канстытуцыйнага суда! Але не варта радавацца, бо, паводле артыкула 116 Канстытуцыі РБ, з 12 суддзяў КС палову прызначае асабіста АП, а палову — Савет Рэспублікі. Але, у сваю чаргу, з 16 чальцоў верхняй палаты парламента палову прызначае АП, палова абіраецца дэпутатамі абласных саветаў. Якім чынам фармуюцца абласныя саветы — гісторыя, вартая асобнай «Азбукі паліталогіі».

У гэтым жа распаведзе неабходна адзначыць, што фармаванне прыгоннага права заўсёды пачыналася зверху. Як тут ні працытаваць Івана Жахлівага: *«Я царь и в своих холопех волен».* Халопы цара — гэта не прасталюдзіны, гэта баяры, яго найбліжэйшае асяроддзе.

## Дзяржаўнае плячо за недзяржаўны кошт

Ніводная сацыяльная сістэма не здольная працаваць без зваротнай сувязі. У рынкавай эканоміцы ролю сігналаў, якія забяспечваюць зваротную сувязь, выконваюць кошты. Гэта з іх дапамогай бізнэсмэны вызначаюць сферы найбольш эфектыўнага прыкладання капіталу. Вырашаючы свае асабістыя праблемы на мікраэканамічным узроўні, яны адначасова не дазваляюць назапашвацца дысбалансам на ўзроўні макраэканамічным. Таму ў рынкавай эканоміцы ў грамадства няма патрэбы ў «вялікім урадзе» з яго Дзяржпланамі і Дзяржснабамі.

Сучасная дзяржава, як адзначае нямецкі філосаф Юрген Хабермас, ёсць адміністрацыйная і падатковая дзяржава. Але беларуская дзяржава кіраўнічымі задачамі не абмяжоўваецца. Паводле ўласнай ініцыятывы, яна запрэглася і ў воз задач вытворцаў.

Але там, дзе дзяржава мае ролю галоўнага эканамічнага суб'екта, рынак адпачывае, а разам з ім адпачываюць і кошты. Ці азначае гэта, што наш суб'ект пазбаўлены зваротных сувязяў? Не, іх ролю бяруць на сябе скаргі.

У час палюддзя дзеянне скаргаў было асабліва відавочным, таму прапаную вярнуцца на «Мотавела», дзе АП «выконвае свае абавязкі датычна народанасельніцтва».

Пачну са скаргі індывідуальнай. Яе падаў старшыня наглядальнай рады групы кампаній «АТЕС» (асноўны акцыянер ААТ «Мотавела») Аляксандр Мураўёў. Ён паінфармаваў АП, што выкананне вытворчых абавязкаў магчыма толькі пры ўмове прадстаўлення растэрміноўкі па вяртанні крэдыту. Такое інфармаванне — не што іншае, як скарга на ААТ «Прыёрбанк», які, верагодна, адмовіў у растэрміноўцы.

АП скаргу задаволіў: *«Если проблема в банке, мы тебе в последний раз подставим плечо, сделаем рассрочку. Костюченко (председатель правления ОАО «Приорбанк» Сергей Костюченко) в нагрузку пускай поможет. Он частник, и ты частник. Думаю, вы договоритесь».* Тут міжволі прыгадваеш аднаго еўрапейскага палітыка, які сваё нежаданне прыватызаваць банкі тлумачыў прыватызацыяй банкіраў.

Індывідуальнай скаргай, аднак, справа не абмежавалася. Прысутныя на мерапрыемстве дырэктары шэрагу прамысловых прадпрыемстваў звярнуліся да АП з просьбай пра прыняцце мер па падтрымцы айчынных вытворцаў. І ў дадзеным выпадку просьба — гэта скарга, але не на калегаў па бізнэсу, а на беларускае грамадства. У масавым парадку яго прадстаўнікі завозяць з сумежных дзяржаў танны шырспажыў.

У якасці даведкі, спашлюся на сваю знаёмую, якая гэтым летам адправілася адпачываць на два тыдні ў Славакію з жаночай торбачкай і поліэтыленавым пакетам, а вярнулася з дзвюма буйнагабарытнымі валізкамі і з бясконцымі размовамі пра 5–10-разовую розніцу ў коштах.

Але не варта думаць, што правам жаліцца надзелены ў нас выключна *«крепкие хозяйственники».* Існуе шэраг фармальных правіл падачы скарг-чалабітных шараговымі грамадзянамі. Яны сёння называюцца «зваротам грамадзян», але ад пераходу на канцылярыт сутнасць справы не змяняецца. Без зваротнай сувязі з грамадствам ніводны «бацька» падтрымліваць стабільнасць не ў стане.

Свежы прыклад. 22 жніўня на нарадзе пра эпізаатычную сітуацыю ў свінагадоўлі АП зрабіў наступную заяву: *«Меня не столько беспокоит сам процесс этой борьбы, сколько то, как реагирует население на меры, которые предпринимаются органами власти и ветеринарными службами. Я все больше и больше получаю сигналов, в АП мы фиксируем возрастающее количество обращений граждан по этим вопросам».*

Я штосьці не магу ўзгадаць, калі ў апошні раз АП свае ініцыятывы звязваў з рашэннямі парламента, а вось на звароты грамадзян ён спасылаецца ўвесь час. Так, і 22 жніўня ў якасці крытэру эфектыўнай працы чыноўнікаў ён назваў спыненне плыні скарг *(«Мы с вами договорились: от людей жалоб быть не должно!»).*

## Але, на жаль…

Пошук паралеляў паміж скаргамі часоў князя Ізяслава і сучаснымі зваротамі грамадзян — справа, безумоўна, цікавая, але з практычнага пункту гледжання малапрадуктыўная. А вось заява АП з нагоды выязнога збору ў памеры «100 долараў з носу» наўрад ці пакінула абыякавым кагосьці з чытачоў НЧ. Таму я вымушаны прысвяціць ёй асобную частку.

Пасланне–2013 утрымлівае цэлы букет выказванняў, звязаных са з'явамі *«глобального порядка»*, якія *«прямо и непосредственно влияют и будут влиять на нас».* Наш адказ на выклік глабалізацыі, паводле АП, абмежаваны двума варыянтамі: *«Мы можем или приспособиться к бурным переменам, или остаться на обочине истории. Иного не дано».*

Асабіста я з такім наборам варыянтаў згодны. Зразумела, што ні ў мяне, ні ў АП жадання застацца на ўзбочыне няма. Вельмі хацелася б прыстасавацца, але за кошт чаго? У Пасланні–2013 на гэта пытанне даецца выразны адказ: хуткасць, гнуткасць і творчасць.

А зараз вернемся да прапановы, агучанай падчас наведвання ААТ «Мотавела». «100 долараў з носу» — гэта вынік хуткасці, якую мы здолелі развіць у другой палове трэцяга года пяцігодкі, ці прыклад нашай гнуткасці? Мы памятаем: *«Мир не просто ускоряется в своем развитии. Он постоянно меняется».* Без гнуткасці пад яго не падстроіцца, як, зрэшты, і без творчасці!

Спадзяюся, прыклад творчасці на ніве вытворчасці растаралнікаў яшчэ не забыты. Для тых чытачоў, якія пакутуюць амнезіяй, прывяду заяву віцэ-прэм'ера расійскага ўрада Аркадзя Дварковіча: «Праваахоўныя органы Расіі працягнуць вывучаць матэрыялы пра пастаўкі Беларуссю нафтапрадуктаў пад выглядам растаральнікаў у трэція краіны, і не выключана, што датычныя да гэтага асобы ў выпадку пацверджання бязмытнага экспарту будуць прыцягнутыя да адказнасці незалежна ад грамадзянства».

Шкоду бюджэту РФ віцэ-прэм'ер ацаніў «мільярдамі долараў». Але чыясьці шкода ў свеце, дзе прынята гуляць у гульні з нулявой сумай, азначае чыйсьці прыбытак. Да жніўня 2012 года гэты прыбытак паступаў у Беларусь вагонамі (правільней было б сказаць «цыстэрнамі»). Але мы — людзі не ганарлівыя, і, быццам куры, не грэбуем дзюбаць і па зярнятку, г. зн. па «100 долараў з носу».

А калі сур'ёзна, то мне давядзецца ў чарговы раз звярнуцца да тэксту Паслання, але не 2013-га, а 2010 года: *«Целью наших усилий должно быть формирование по-современному конкурентоспособных как экономики, так и государства в целом. И, более того, конкурентоспособной белорусской нации!»*

Але, на жаль…

За апошнія тры гады мы ні на крок не здолелі наблізіцца да вызначаных мэтаў. Хто гэту выснову не падзяляе, хай паспрачаецца, але не са мной, а з маёй знаёмай, якая атаварылася гэтым летам у Славакіі з 5–10-разовымі зніжкамі.

Падтрымка айчынных вытворцаў — абавязак любой разумнай дзяржавы. Метады тут могуць быць разнастайныя, і «100 долараў з носу» — далёка не самы экзатычны. Іншая справа — сацыяльныя і палітычныя наступствы ў краіне з адкрытай эканомікай. Але гэта ўжо тэма асобнай размовы.



ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

# КОЛЬКІ БУДЗЕ КАШТАВАЦЬ ДОЛАР НАПРЫКАНЦЫ ГОДА?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**На гэтым тыдні з'явілася інфармацыя, што Нацбанк атрымаў дазвол на дэвальвацыю ў другой палове восені. Чуткі былі абвергнутыя самім Нацбанкам.**

Тое, што дэвальвацыя патрэбная, не хаваюць зараз нават уладныя эксперты. 2 верасня з'явіўся даклад Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі, у якім сцвярджаецца, што «з мэтай ліквідацыі наяўных дысбалансаў у экономіцы неабходна ў кароткатэрміновым перыядзе правесці плаўную дэвальвацыю нацыянальнай валюты». Раней пра неабходнасць дэвальвацыі казалі толькі незалежныя эксперты.

Што ж падштурхнула Мінэканомікі да разумення сітуацыі? Пэўна, гэта зніжэнне нашых золатавалютных рэзерваў. Не выпадкова, наведваючы 6 верасня ААТ «Мотавела», прэзідэнт заявіў аб недапушчальнасці зніжэння ўзроўню ЗВР: «Гэта жалезная задача Нацыянальнаму банку: ні ў якім разе нічога штучна не стрымліваць і не марнаваць золатавалютныя рэзервы».

Але загадамі тут не дапаможаш. Сітуацыя на валютным рынку характарызуецца чыстым попытам на замежную валюту. ЗВР знізіліся ніжэй ключавога ўзроўню ў 8 мільярдаў долараў у ліпені 2013 года, у жніўні валютныя рэзервы скараціліся яшчэ на 215 мільёнаў долараў і на 1 верасня складалі крыху больш за 7,7 мільярда «зялёных».

Выбар у Нацбанка невялікі. Першае выйсце выйсцем не з'яўляецца: назіраць за тым, як змяншаюцца ЗВР, прычым хуткасць змяншэння будзе ўзрастаць. Працэсы вядомыя: скарачэнне экспарту, а значыць, скарачэнне валютнай выручкі. Апераджальны рост заробку адносна выпрацаванай і прададзенай прадукцыі. Скандал з Баўмгертнерам, які прадэманстраваў людзям, што адзін з асноўных пастаўшчыкоў валюты ў краіну — «Беларуськалій», знаходзіцца ў складаным становішчы і чакаць ад яго асаблівых прыбыткаў не варта. У сувязі з тым жа скандалам — мажлівае скарачэнне паставак нафты з боку Расіі, а значыць «мінус» прыбытку нафтаперапрацоўкі. А тут яшчэ трэба і ранейшыя крэдыты аддаваць. Акрамя як з ЗВР, узяць валюту няма адкуль.

Другое выйсце: плаўным паслабленнем рубля спрабаваць прастымуляваць экспарт, адначасова зніжаючы прывабнасць імпарту. Уцёкі насельніцтва з рублёвых дэпазітаў можна спрабаваць спыніць з дапамогай росту ставак на дэпазітным рынку да ўзроўню ў 40% гадавых і вышэй. Рост рублёвай масы звязаць ростам выдаткаў насельніцтва на аплату павышэння кошту паліва, камунальных паслуг і гэтак далей.

Але гэта тое, што тычыцца «мяккай дэвальвацыі». Эксперты кажуць, што яна ідзе і зараз. Долар раз за разам б'е гістарычныя рэкорды, 10 верасня ён перасягнуў чарговую максімальную мяжу ў 9 050 рублёў за «бакс». Такое павышэнне ненатуральнае для рынку, адзначаюць аналітыкі. Напрыклад, старэйшы аналітык Forex Club Валер Палхоўскі адзначае, што плаўнае паслабленне курсу рубля не падобнае на рынкавыя паводзіны. Досвед біржавога гандлю сведчыць: падобна на тое, што Нацбанк, з улікам няўстойлівых дэвальвацыйных чаканняў, згладжвае ваганні курсу. Гэта і ёсць плаўная дэвальвацыя рубля.

Заява ж Лукашэнкі аб недапушчальнасці расходавання ЗВР прадастаўляе Нацбанку права дзейнічаць больш агрэсіўна ў частцы паслаблення курсу нацыянальнай валюты. То бок, ёсць магчымасць, спасылаючыся на скарачэнне ЗВР, праводзіць не «плаўную» дэвальвацыю, а аднаразовую.

Што лепш для эканомікі: аднаразовая дэвальвацыя альбо «паўзучая»? Былы кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч за тое, каб Нацбанк дзейнічаў так, як дзейнічае. І справа не толькі ў тым, што «мяккая пасадка» рубля менш заўважная для насельніцтва.

«Плаўная дэвальвацыя, з пункту гледжання псіхалогіі насельніцтва, больш эфектыўная, бо яна дазваляе стрымліваць паніку на рынку. Найперш, людзі не бягуць здымаць рублёвыя дэпазіты і пераводзіць іх у валютныя ці набываць наяўную валюту. Гэта не прыводзіць да дэфіцыту валюты, як гэта было ў 2011 годзе. Да таго ж, калі рабіць «абвал» на 10–20%, то на 20% гэты «абвал», як правіла, не спыняецца, і ў рэальнасці дэвальвацыя аказваецца большай», — адзначае спецыяліст.

То бок, «плаўная» дэвальвацыя з'яўляецца больш прагназуемай і кіруемай.

Такім чынам, варта чакаць больш хуткіх тэмпаў росту кошту кошыка валют. Грамадзянам варта ўважліва разлічваць магчымыя наступствы рызыкоўнай гульні ў рублёвыя дэпазіты і прадугледжваць дапушчальныя памеры страт у выпадку пройгрышу.

Паводле меркаванняў экспертаў, напрыканцы года долар будзе каштаваць ад 9 300 да 10 000 рублёў. 9 300 — гэта экстрапаляцыя сённяшняй сітуацыі на 90 дзён наперад па падліках фінансавых экспертаў Forex Club. 9 500 – 10 000 — гэта разлікі «прамысловых» эканамістаў, пры такім курсе можна выратаваць экспартаарыентаваныя прамысловыя прадпрыемствы ў кароткатэрміновы час.

Але, кажучы «А», трэба казаць і «Б». Дэвальвацыя — гэта толькі інструмент падтрымкі эканомікі краіны. Яна праводзіцца не проста так. За ёй павінны быць іншыя крокі. Як кажа той жа Багданкевіч, галоўнае — не ў тым, каб правесці дэвальвацыю, і ўсё стане добра. Галоўнае ў тым, каб у далейшым не ствараць такіх умоваў, пры якіх давядзецца праводзіць дэвальвацыі раз за разам.

Заробак не павінен расці больш, чым вытворчасць, то бок, не павінна павялічвацца грашовая маса. Кошты на прадукцыю павінны быць збалансаваныя, інфляцыя павінна быць утаймаваная, каб яна не кампенсавалася потым ростам заробку. Павінна быць станоўчае сальда знешняга гандлю — а ў нас зараз «мінус» два мільярды долараў з хвастом. Прадпрыемствы павінны быць рэнтабельныя, а не так, што кошт у доларах застаецца на месцы, прыбытак на месцы, а выдаткі на вытворчасць прадукцыі растуць. Ну і далей — да рэформаў эканомікі.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# А ЭКАНОМІКА СУПРАЦЬ



**Белстат надрукаваў справаздачу аб выніках сацыяльна-эканамічная развіцця краіны за студзень-ліпень бягучага года. Лічбы падаюцца цікавымі.**

Прыкладам, у першым раздзеле паведамляецца пра выкананне важнейшых паказчыкаў прагнозу развіцця, у другім — пра выкананне сацыяльна-эканамічных паказчыкаў.

Аднак калі ўважліва ўгледзецца ў шматлікія паказчыкі, якія характарызуюць стан эканомікі ў асобных галінах, стан сацыяльнай сферы, лёгка ўбачыць мноства несупадзенняў, супярэчнасцей.

Але нічога не зробіш, іншай статыстыкі, акрамя афіцыйнай, у нас няма. Даводзіцца глядзець у тое люстэрка, якое ёсць. І як бы хто не імкнуся штосьці схаваць, а штосьці падмаляваць — з мноства лічбаў можна вылушчыць вельмі дакладную інфармацыю, а на яе аснове аднавіць праўду жыцця, якую спрабуюць схаваць ад людзей.

Так, у першым раздзеле называюцца прагнозныя паказчыкі, якія спачатку падрыхтавалі спецыялісты, а пасля, згодна з вызначаным парадкам, былі зацверджаны ўказам прэзідэнта РБ за №418 ад 25 верасня 2012 года. Такім чынам гэта паперка набыла абавязковую сілу закона на ўсёй тэрыторыі РБ і займела вяршэнства над актамі іншых дзяржаўных органаў і афіцыйных асоб.

Па традыцыі, справаздача пачынаецца з паведамлення аб вытворчасці ВУП. Паводле ўказу прэзідэнта, сёлета вытворчасць ВУП у параўнанні з 2012 годам павінна была скласці 108,5%. За студзень-ліпень 2013 года рост склаў 101,4%. Цуды ў эканоміцы здараюцца, але не ў нашым выпадку. Такое велізарнае адставанне ліквідаваць за пяць астатніх месяцаў ужо немагчыма.

Што тычыцца дадзеных Белстата аб прыросце ў памеры 1,4%, дык наконт гэтага можна дыскутаваць. Адны могуць палічыць гэтыя лічбы за абсалютную рэальнасць, а іншыя патлумачаць, што такі прырост забяспечаны методыкамі разліку вартасці ВУП. Мы ж спрачацца не станем. Адзначым толькі, што за мінулы год вытворчасць ВУП склала 103,4% ад 2011 года, што ацэньвалася як недастатковы рост. Менавіта па гэтай прычыне і вызначылі, што вытворчасць ВУП у 2013 годзе павінна скласці ўжо 108,5% — не менш, а пажадана і болей.




Адсюль наступны крок. Каб падвышаўся ВУП, работнікі павінны працаваць лепей і болей, бо колькасць занятага насельніцтва абмежаваная. Таму архітэктары прагнозу, згодна з пажаданнямі прэзідэнта, зрабілі проста і адначасова мудра. Вартасць ВУП, якую належыць вырабіць, падзялілі на колькасць занятых у эканоміцы і атрымалі прадукцыйнасць працы — 109,3%.

Якая дакладнасць — аж да 0,3%! З такой дакладнасцю толькі блох падкоўваць! Але нічога не атрымалася — вынік быў дыяметральна процілеглы. За 7 месяцаў вытворчая сіла грамадскай працы ў беларускай эканоміцы павысілася толькі на 2,5%.

Як кажуць, папера сцерпіць. Але складальнікі прагнозу, перад тым, як панесці яго на подпіс Лукашэнку, узялі пад увагу і ягоныя абяцанкі электарату аб падвышэнні заробкаў і пенсій. Паказчыкам рэальнага росту грашовага даходу насельніцтва яны вызначылі сціплыя 6,5%, выходзячы з разліку, каб яны не пераганялі прагнознага росту прадукцыйнасці працы — ну, у крайнім выпадку, толькі крыху. Маўляў, штосьці прададзім, дзесьці пазычым.

Але з гэтага «крыху» на справе атрымалася вялікая дыспрапорцыя. Замест запланаванага, рэальныя грашовыя даходы насельніцтва павысіліся на 19,8%. У тры разы больш, чым прагназавалася, больш, чым патрабаваў прэзідэнцкі ўказ.

Плануецца, прагназуецца і абяцаецца адно, а выконваецца зусім іншае. Прыкладам, за гэты год, згодна з указам Лукашэнкі, памер экспарту тавараў і паслуг павінен падвысіцца да 115,2% (зноў з такім тонкім і дакладным разлікам), а за паўгоддзе яго аб'ем склаў толькі 79,3%. За паўгода разбежка паміж пажаданым і рэальным — 35,9%!

Акрамя асноўных, у справаздачы Белстата процьма іншых лічбаў — вельмі дакладных, якія адлюстроўваюць рэчаіснасць, як яна ёсць: што беларуская эканоміка ўжо даўно існуе па нейкіх сваіх уласных законах і не падпарадкоўваецца ні прэзідэнту, ні яго прагназістам.

ALBA ROSIKA

# УЗЛЁТЫ ДЫ ПАДЗЕННІ КАЗІМІРА РАХАТКІ

Віталь СЯМАШКА

**Днямі даведаўся, што нягледзячы на пенсійныя гады, хваравітасць ды пагрозы сысці паплечнікам, ён такі застаўся на сваёй пасадзе.**




Фота аўтара

Аграгарадок у Малым Мажэйкаве, што на Лідчыне, у часе сваіх вандровак па правінцыі падсвядома абмінаў гадамі. Няўжо ж! Пісаны-распісаны як «флагман» у афіцыйным друку і БТ. Даўно ж ведама, колькі паказухі, «кропкава» размеркаваных грошай ды тэхнікі ўкідваецца для прызначанай быць «узорнай» гаспадаркі.

Кіраўнік, Казімір Рахатка — яшчэ нядаўна сенатар Палаты прадстаўнікоў. Неаднаразова ўхвалены Лукашэнкам, які асабіста наведваў гаспадарку. Тут паспяхова працуюць два прадпрыемствы, адно з якіх — звышпрыбытковае лікёра-гарэлачнае з фірмовым напоем «Мажэйкава». Амаль не засталося традыцыйных сялянскіх хат — без праблем узятыя крэдыты, каб былі збудаваныя сотні добраўпарадкаваных аградамкоў. Дарэчы, пра самога Рахатку на Лідчыне дагэтуль язычаць, што ва ўсе высокія кабінеты не заходзіць без дыпламата з чыстым мажэйкаўскім спіртам.

А нядаўна з аўтобуснай мапы Лідчыны знік маршрут на Малое Мажэйкава, дзе жыве 700 чалавек. Знікла прыстаўка «Малое». Цяпер проста пасёлак Мажэйкава. Перайменавалі на зварот асабіста кіраўніка гаспадаркі. Тады пра паселішча і яго кіраўніка выпадкова загаварыў са мной даўні знаёмец, ведамы тутэйшы краязнаўца ды гісторык Валерый Сліўкін, прымусіўшы змяніць ракурс бачання:

«Малое Мажэйкава — з тых мясцовасцей на лідскай зямлі, якія яшчэ ў сярэднявеччы былі абазнаныя як тэрыторыі добрага гаспадарання. З XVI стагоддзя яно належала Брахоцкім. Апошні з гаспадароў быў інжынер, гідратэхнік — там дагэтуль збудаваныя ім саджалка, млын і той жа спіртзавод. Былі шыкоўная конеферма ды чварэк, ці дом для абслугі. Толькі дзякуючы Рахатку рэстаўраваны палац паноў Брахоцкіх. Больш за тое, ён атрымаў у «дадатак» Тарнова, дзе палац Маўруса, генерал-лейтэнанта грэчаскага паходжання. Аднавілі і яго, цяпер там жыве 11 сем'яў! За гэта здымаю перад ім шапку...»

Амаль адначасова «тэму» выпадкова закранулі з сябрам ТБМ Міхасём Бурачэўскім — на пазамінулых выбарах у Палату прадстаўнікоў ён быў у Мажэйкаве назіральнікам ад Партыі БНФ:

«Уразіла высокая арганізацыя выбараў. Бюлетэняў выдалі столькі, колькі па спісах выбаршчыкаў. «Выязныя» далі толькі тым, хто фізічна не мог прыйсці на ўчастак. Пры падліку галасоў мясцовая камісія пра любое спрэчнае пытанне раілася з назіральнікамі, хоць яе ніхто не прымушаў. Галоснасць выбараў была забяспечана менавіта аўтарытэтам Рахаткі! Хоць ён і прайграў. У першым туры ўвечары яму патэлефанавалі, што выйграў, а раніцай — што «памыліліся». Вертыкальшчыкі дагэтуль пабойваюцца яго аўтарытэту — маўляў, як бы іх саміх не скінуў. Паказальна, што на другі тур з мажэйкаўскіх ніхто не прыйшоў. Мы ўскосна падтрымлівалі Рахатку, бо наш кандыдат не мог прайсці па вызначэнні.



Казімір Рахатка

## Першая спроба на шчырасць

Заінтрыгаваны, пачаў шукаць з ім сустрэчы. Падставы звярнуцца хутка знайшліся. Калі вандраваў па мажэйкаўскай аграімперыі, якая пасля далучэння суседніх гаспадарак выцягнулася аж на 44 кіламетры.

...У прызначаны час уваходжу ў кабінет Рахаткі. У вочы б'е дапытлівы, строгі позірк паўнаватага чалавека. «Цукровіца замучыла!» — скажа пасля. Трымаецца, аднак, проста, без уласцівых вертыкальным колам высакамернасці ды хамства. Праслухаўшы мае дыктафонныя запісы, адразу ў часе размовы кідаецца ў наступ:

— Адтуль на нас «навеселі» 500 чалавек і 20 адзінак тэхнікі. У 1985-м, калі я там быў галоўным інжынерам, мелася 105 трактароў — куды падзяваліся?! Стала тыповая «ляжачая» гаспадарка. Цяпер там ёсць сад на некалькі кіламетраў, гародніна, фермы, цэх перапрацоўкі плануем пабудаваць...

— Баяліся прыходу Рахаткі, бо будзе дыктатарская дысцыпліна?

— Хтосьці пападаецца за прагулы — кожны панядзелак разглядаем. Гэта не дзіцячы садок, калі штодзень мусілі б гаварыць: «Не пі». Мо дзе ў паляводў гарэлка «праскочыць» — іх 70, асобая каста на палетках, а на фермах гэта выключана...

— Але гэта магчыма пры адной умове — калі людзі маюць рэальны заробак. Сярэдні па аграгарадку які лічыцца?

— 3 мільёны рублёў. Камбайнеры на ўборцы некаторыя і па 16 мільёнаў зарабілі. Трактарысты, што на «Джон-дзір» — 6–7 мільёнаў у месяц, на лікёра-гарэлачным маюць каля 2 мільёнаў — спіртзавод рэканструяваўся, і замест 40 там 16 чалавек, усё кіруецца кампутарам. Спірт выпускаем «люкс» — 10 тон у суткі. Гаспадарка мае зараз 11 тысяч гектараў сельгасплошчаў, 7 тысяч гектараў пашы, пражывае больш за 3 тысячы чалавек. Маюцца дзве СШ і два садка, бальніца на 25 ложкаў і амбулаторыя з ўрачом-стаматолагам...

Ну хопіць! Пачаліся-такі самаўхвалы, якія ў крыві любога кіраўніка з савецкім стажам. Вельмі дарэчы «сядае» мой дыктафон на кітайскіх батарэйках. І дамовіўшыся сустрэцца пазней, маю магчымасць адчуць настрої мясцовых.

## Вандроўкі па Мажэйкаве

Ля цэнтральнай крамы знаёмлюся з двума мужыкамі сярэдняга ўзросту ў спяцоўках. Юры Зумарфель працуе 20 гадоў вартаўніком у садку, «Андруха», што на ферме, прозвішча не называе. Кажуць, што звышмільёнаў не атрымліваюць — за два «касары». Выхавальніцы — каля 4 мільёнаў, але дзяцей менш за 20 — на мяжы таго, што могуць закрыць садок. Таму хочуць злучыць яго са школай.

На цэнтральнай плошчы — памянёная амбулаторыя з сучасным фізіятэрапеўтычным абсталяваннем. Урачы на выкліках. Дзяжурыць участковая медсястра Алена Пілюйка. Тэхнічныя ўмовы для вёскі насамрэч выдатныя. Свая «Ніва» з радыусам абслугоўвання 20 кіламетраў. Інфармацыя перадаецца па радыётэлефоне — і менш за 20 хвілін на месцы. 3 разы на тыдзень кіроўца возіць на гемадыялiз жанчын. Але зноў жа — у медсястры ўсё той жа «вялізны» заробак у 2 мільёны 200 тысяч. Ва ўрачоў за 3 мільёны — маўляў, у іх стаж паболей.

Заходжу ў стары драўляны дом з відавочна нядаўна ўмацаваным падмуркам ды гасціннай гаспадыняй. 67-гадовая Святлана Руднява дзеля мяне зганяе нават з крэсла пушыстага катка Васю. Яна, як водзіцца ў старых, усё спасцігае ў параўнанні. Ну як жа — лазня збудаваная, вуліцы чыстыя сталі. Газ правяла, калонка з вадой непадалёк, брыкет ды дровы прывозяць. А пенсіі ў 1,7 мільёна хапае, каб купіць лекі ды на сілкаванне...

А вось ля той калонкі ў бакавым завулку, побач з дзяржаўнай двухпавярховай «хрушчоўкай», чую зусім іншае ад пажылой кабеты з дзяўчынкай. 51-гадовая Людміла Новікава працуе ў школе вартаўніком у сярэднім за 1 мільён 100 тысяч. Маўляў, выжыць на гэта немагчыма — прысядзібнага нічога не трымае, бо здароўе «падкачала». Таму не можа пайсці ў даяркі — тыя працуюць «па-чорнаму» і ў вецер, і ў снег. У доме сваімі сіламі рабілі коміны, а зайдзіце — калідоры закладзеныя анучамі, дах цячэ! Але тут ужо дзяржава вінаватая, што жывем па-сабачы, без вады і каналізацыі...

Пры гэтым спадарыня Новікава на адрас мажэйкаўскага кіраўніка гаворыць толькі добрыя словы:

«Ён варты чалавек. Маёй дачцэ не хапала па балах на платнае ў каледж. Схадзіла да яго, і тут жа дапамог грашыма. Калі хто прыйдзе да Рахаткі са слязьмі — дзень сядзіць сам не свой, каб не памагчы! Але не ў сілах падняць усё ў гаспадарцы...»

## Другая спроба на шчырасць

У часе далейшага дыялогу Казімір Уладзіслававіч папярэджвае мяне, што ўзрост і заслугі даюць яму права ды абавязак гаварыць узважана, але праўдзіва. І тут жа тлумачыць, чаму існуе разрыў паміж выдатнай «сацыялкай», багатымі прыбыткамі гаспадаркі і дрэннымі заробкамі працуючых.

— Паміж намі — сама сістэма сабе зжыла. Я быў дэпутатам Вярхоўнага савета 12-га склікання і двойчы сенатарам. Са мной сядзеў віцэ-прэм'ер Раман Унучка і казаў: «Разагнаць калгасы і саўгасы!» Толькі цяпер зразумеў, што ён быў правы. Год 15 цвярджу — трэба ўсё толькі прыватнае! Бо інакш ніхто адказнасці не нясе, а ўсе даюць толькі каманды. Сістэма «давай-давай», а якая сітуацыя на месцах, нікога з начальнікаў, як правіла, не цікавіць...

— У адмыслоўцаў зараз дыскусія — аграгарадкі альбо вырадзяцца, альбо ператворацца ў прыватныя вялікія латыфундыі, як у Лацінскай Амерыцы. Лёс мажэйкаўскага аграгарадка як бачыце?

— Аграгарадкі ўсё-ткі застануцца. Немагчыма адкінуць зробленае. Тры малочна-таварныя фермы маем па 800 галоў, запускаем у Більтаўцы на 700 — фабрыкі малака! Але непатрэбна аграманія. Ферма «Новы век» ад Мажэйкава знаходзіцца за 7 кіламетраў, а «Чаплічы» за 10 кіламетраў ад Тарнова. Увогуле, каб даехаць з канца ў канец 44 кіламетры — гэта вялікія затраты таго ж паліва. Да таго ж, я лічу, даярка павінна прыйсці адразу пасля працы і адпачываць, а так яна абедае на ферме і прыходзіць у 11 ночы ў халодную кватэру...

— Гадамі чую скаргі жыхароў праслаўтых прэзідэнцкіх домікаў. Кожны з іх каштуе ад 50 да 70 тысяч долараў. Людзі кажуць — дайце нам гэтыя грошы, мы сабе палацы пабудуем! Але кожную хату будуюць 10 фірмаў з вядомымі ўсім «адкатамі». Людзі стогнуць, бо пасля самі фарбуюць сцены, перакрываюць дахі. Пры гэтым 10 гадоў адпрацоўкі ў СВК за іх.

— За сваё 8-гадовае існаванне мы пабудавалі 300 кватэр. Усе домікі я прымаю асабіста — «пад ключ», у літаральным сэнсе перадаючы яго новым гаспадарам. У суседнім аграгарадку 20 кватэр забітыя дошкамі. У нас, да прадаці, ні адна хата не пустуе. Лідскі трэст 19 дае гарантыю на 2 гады — калі цвіль ці падцёкі, тут жа рамантуюць. У горадзе кажуць: «У вас сваё малако і мяса». Малако белае, але крывёй даецца. У нас у кожны двор завозіцца сена — людзі самі не косяць, прывозім і даем, колькі трэба. А было — давалі дзялкі, ды яшчэ за 7 кіламетраў. Пеця запатрабуе, каб прывезці, 10 рублёў, Хведар — 15 і бутэльку!

— Ушчыльную падышлі да праблемы збыту, якая прымушае многіх ад немагчымасці прадаць вырашчанае заараць тую ж моркву, бульбу...

— Не сакрэт, у мінулым годзе мы рэалізавалі толькі 30% ад зробленага. Адчуваю, што сёлета такога не здарыцца. Ёсць попыт на гародніну, яблыкі. На Расію 60–70% трэба адвозіць, аж да Сібіры. А каб была перапрацоўка, можна было б мець 3 мільярды за кошт капусты і морквы. У 1998 годзе на вучобе ў Ізраілі бачыў, што жанчыны паўсюдна купляюць паўфабрыкаты: 15 хвілін — і гатовы абед! У будучым бачу, што і мы перапрацаваную ачышчаную бульбу будзем пастаўляць. Між іншым, ужо сёлета ў нашай маркетынгавай службе 4 чалавекі...

— Не магу не спытаць — вам за 60, і паўстае пытанне пераемнікаў...

— Не мне вырашаць — я кіраўнік па кантракту, узгадняецца пытанне са старшынёй аблвыканкама. Ёсць кадры і ў Мажэйкаве, здольныя працягваць пачатае і задуманае на наступныя гады. Чалавеку з боку трэба год, каб уехаў, а не пачаў красці. Я на гэтай зямлі нарадзіўся, хрысціўся і працаваў — усё жыццё!

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 16 ВЕРАСНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Камедыя «Аканом» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**14.15** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Заўтра - гэта мы!
**16.20** Усё як мае быць!
**16.40** Меладрама «Апошняя роля Рыты».
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 22.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Вангелія».
**21.00** Панарама.
**21.45** Меладрама «Навучаю гульні на гітары» (Расія). 1-я серыя.
**23.25** Дзень спорту.
**23.35** Трылер «Бункер» (Калумбія-Іспанія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час». Заключная серыя.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм'ера. «Маці-і-мачаха». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**00.20** Прыгодніцкі фільм «У тыле ворага».
**02.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.25** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**13.50** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**13.55** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг». Дайджэст.
**15.30** «Ежа багоў».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**18.35** «Ашуканыя навукай».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Код доступу «Сафія». ЗША.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**23.05** «Ваенная таямніца».
**00.55** «Прафесійны бокс».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў».
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.50** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**11.45** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**12.50** Баявік «Маленькі вялікі салдат».
**14.45** Меладраматычны кінальманах «Нью-Ёрк, я кахаю цябе» (ЗША).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Драма «Жыві і памятай» (Расія).
**23.30** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**00.20** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Мой горад». Давыд-Гарадок.
**08.15** «Снег падае і растае.» Фільм-партрэт народнага артыста Беларусі Б.Луцэнкі.
**08.55** «Карані». Аляксандр Карскі - праўнук філолага-славіста, этнографа Я.Карскага.
**09.30** «Тайнікі Рускага музея. Палацы Рускага музея». Дакументальны фільм.
**09.55** «Народныя промыслы Расіі».
**10.25** «Праўдзівая гісторыя кінамузыкі». Гісторыя савецкай кінамузыкі. Фільм 5, закл.
**10.50** «Приведем ко Творцу сотворенный Им Космос». Дакументальны фільм.
**11.20** «Росчырк часу». Мастак А. Концуб.
**11.35** «Дзед Аўсей і Палашка». Кароткаметражны фільм.
**12.00** «Мой горад». Давыд-Гарадок.
**12.15** «Свечка». Мастацкі фільм.
**13.50** «Зубр». Дакументальны фільм.
**14.05** «Таямніца душы».
**14.40** «Скарбніца Міншчыны». Ракаў.
**15.05** «Валенцій Ванькові. Шлях мастака». Дакументальны фільм.
**15.20** «Маем рэчы». Сыраварня.
**15.40** «Прага жыцця». Народны артыст СССР Мікалай Яроменка.
**16.00** «Мой горад». Давыд-Гарадок.
**16.15** «Аляксандр Сумбатаў-Южын. Барацьба за тэатр». Дакументальны фільм.
**16.55** «Росчырк часу». Мастак А.Концуб.
**17.10** «У фокусе і без.» Народны артыст Беларусі Аляксандр Ткачонак.
**17.50** «Гісторыя беларускай страўні». Супы і сытныя стравы.
**18.20** «Загадкі дзеда Кандрата». Дак. фільм.
**18.45** «Папая». Дакументальны фільм пра творчасць спявачкі Цэзарыі Эвара.
**19.15** «Снег падае і растае.» Фільм-партрэт народнага артыста Беларусі Б.Луцэнкі.
**19.55** «Палітра памяці». Ваенная тэма ў творчасці беларускіх мастакоў.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Двое на востраве слёз». Мастацкі фільм.
**22.20** «Аляксандр Сумбатаў-Южын. Барацьба за тэатр». Дакументальны фільм.
**23.00** «Мой горад». Давыд-Гарадок.

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Дэльта».
**20.30** Баявік «Антыснайпер».
**22.15** Дэтэктыў «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Вострасюжэтны серыял «Важняк».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** Маст.фільм «Калі ты мужчына.».
**10.50** Выніковая «Разам».
**11.45** «Агульны рынак».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.15** Серыял «Чорны крумкач».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Беларусь сёння».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Спецпраект «Сочы. Гульні пад ключ».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.25** Серыял «Прыватны дэтэктыў».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** Дакументальная гадзіна: «Рэп парабску», дак. фільм, 2011 г., Канада.
**09.40** Euromaxx.
**10.10** Форум (ток-шоў).
**10.55** «Час гонару», серыял: 51 серыя.
**11.45** ПраСвет.
**12.10** Зона «Свабоды».
**12.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.10** Два на два (тэледыскусія).
**13.35** Дакументальная гадзіна: «Рэп парабску», дак. фільм, 2011 г., Канада.
**14.25** Праект «Будучыня».
**14.55** «Аперацыя Самум», баявік, 1999 г., Польшча.
**16.25** «Палітыканы», серыял: 3 серыя.
**17.15** «Ян Тарасевіч – забыты кампазітар», рэпартаж.
**17.35** Відзьмо-невідзьмо: выд. 35.
**18.05** Еўропа сёння.
**18.30** Назад у будучыню.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Дэвайс.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Чорная Вяргіня», дэтэктыў, 2006 г., ЗША.
**23.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.00** Асабісты капітал.
**01.20** Аб'ектыў.
**01.50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 17 ВЕРАСНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной». Закл. серыя.
**10.05** Біяграфічная драма «Вангелія».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дак. серыял «Усе грані ўтрапёнасці».
**14.00** Меладрама «Навучаю гульні на гітары» (Расія). 1-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.45** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.35** Серыял «Дыхай са мной». Закл.серыя.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). Закл. серыя.
**21.00** Панарама.
**22.00** Меладрама «Навучаю гульні на гітары» (Расія). 2-я серыя.
**23.40** Дзень спорту.
**23.55** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Белараша».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм'ера. «Маці-і-мачаха». Шматсерыйны фільм.
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Прэм'ера. Трылер «Сакрэтныя матэрыялы: Хачу верыць».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10, 10.25, 13.50, 18.30, 23.00** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**09.45** «Чыстая праца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.55** 1/2 фіналу Міжнароднага музычнага праекта «ХОРаШОЎ».
**16.00** «Уявіце сабе».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Гарадскі паляўнічы». 1992 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.05** «Жывая тэма».
**00.05** «Аўтапанарама».
**00.30** «Халасцякі». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.25** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**11.20** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.50** Цела чалавека.
**13.35** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**14.40** Драма «Жыві і памятай» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Драма «Анастасія Слуцкая».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Бавар'я - ЦСКА. Прамая трансляцыя.
**23.35** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**00.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**01.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Рэал Сасьедад - Шахцёр.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Мой горад». Сянно.
**08.15** «Максім Танк». Дак. фільм.
**08.40** «Гісторыя беларускага тэатра. Нараджэнне». Дакументальны фільм.
**09.10** «Карані». Скіт у Адрынках. Дзейнасць архімандрыта Гаўрыіла.
**09.40** «Гісторыя беларускай страўні».
**10.00** «Палітра памяці». Ваенная тэма ў творчасці беларускіх мастакоў.
**10.35** «Маем рэчы». Рушнікі.
**10.50** «Спецыяльны рэпартаж». Творчасць ансамбля «Сябры».
**11.05** «Максім і Дар'я». Дак. фільм аб захапленні вершамі М.Багдановіча.
**11.20** «Давеку». Дакументальны фільм.
**11.40** «Кола». Кароткаметражны фільм.
**12.00** «Мой горад». Сянно.
**12.15** «Двое на востраве слёз». Маст.фільм.
**13.40** «Маем рэчы». Аб працы археолагаў на раскопках старажытнага. кургана.
**13.55** «Росчырк часу». Мастакі Ірына Данілава і Арсеній Дваронін.
**14.15** «Лабірынты». Маёнтак Талстых у Беларусі.
**14.40** «У рэху імені твайго.» Пра жонку Францыска Скарыны Маргарыту Адвернік.
**14.55** «Неба і зямля». Дак. фільм.
**15.20** «Скарбніца Міншчыны».
**15.45** «Маем рэчы». Рушнікі.
**16.00** «Мой горад». Сянно.
**16.15** «Залатое вяселле». Дак. фільм.
**16.55** «Сінематэка». Цуд сінематографа.
**17.35** «Набліжэнне». Беларускі дзяржаўны музей народнага дойлідства і побыту.
**17.40** «Гісторыя беларускага тэатра. Нараджэнне». Дакументальны фільм.
**18.10** «Лабірынты». Святыя азёры.
**18.40** «Максім Танк». Дак. фільм.
**19.10** «М. Пінігін. Мяне няма». Дак. фільм.
**19.50** «Ленінградка». Дак. фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Вадзіцель аўтобуса». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**23.00** «Залатое вяселле». Дак.фільм.
**23.40** «Мой горад». Сянно.

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Дэльта».
**22.15** Дэтэктыў «Ментоўскія войны».
**23.05** Вострасюжэтны серыял «Важняк».

### МИР

**09.10** Фільм «Прыгоды зубнога лекара».
**10.45** «Навіны Садружнасці. Культура».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Чорны крумкач».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Саюзнікі».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Дак.фільм «У свеце мінулага».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.25** Серыял «Прыватны дэтэктыў».
**01.00** Маст.фільм «Пастка для спеца».
**02.30** Серыял «Клон».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 11.55, 19.00, 00.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35, 13.35** Асабісты капітал.
**08.55, 13.55** Аб'ектыў.
**09.20, 14.20** Еўропа сёння.
**09.50, 14.50** Назад у будучыню.
**10.00** «Girl guide», маст. фільм, рэж. Юльюш Махульскі, 1995 г., Польшча.
**11.35** «Супрасльская лаўра», дак. фільм.
**15.05** «Дом», серыял: 1 серыя.
**16.30** «Генерал Клеэбэрг і яго жаўнеры», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**17.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** На колах.
**18.30** Без межаў.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20, 20.10** Агляд падзеяў культуры.
**19.25, 20.15** Сальда.
**19.30, 20.00** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.30** Чорным па белым.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Dekalog 89+», цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 3: «За бортам».
**21.50** Спазнай свет: «Made in Poland», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**22.25** Форум (ток-шоў).
**00.45** Чорным па белым.
**01.10** Аб'ектыў.
**01.35** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 22 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.40** Камедыя «Кухарка» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйная меладрама «Выратавальць боса» (Украіна-Расія).
**10.40** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Белыя Росы» («Беларусьфільм»).
**13.55** Заўтра - гэта мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.50** Анімацыйны фільм «Тачкі» (ЗША).
**17.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.55** Меладрама «Час шчасця» (Расія-Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Прэм'ера. Гістарычная любоўная драма «МЫ. Верым у каханне» (Вялікабрытанія).
**00.45** Камедыйная меладрама «Выратавальць боса» (Украіна-Расія).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** Прыгодніцкі фільм «Моцны арэшак: Адплата».
**15.00** Прэм'ера. «Шыпы белых руж».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Куб».
**17.35** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезону. «Ледавіковы перыяд».
**00.00** Трылер «Сведка».

### СТВ

**06.00** «Салдаты». Серыял.
**07.45** Фільм «Сурагатная маці». Расія, 2007 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Будні і святы Серафімы Глюкінай». СССР, 1988 г. 2-я серыя.
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Псіхааналітык». ЗША, 2009г.
**22.45** «Прафесійны бокс».
**23.45** Фільм «Незабыўныя моманты». Германія-Данія-Швецыя-Фінляндыя-Нарвегія, 2008 г.
**02.00** «Дакументальны праект».

### Беларусь 2

**06.25** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**07.40** Мультфільмы.
**08.15** Фільм-казка «Вясёлае чараўніцтва».
**09.25** Пазакласная гадзіна.
**09.40** Тэлебарометр.
**09.45** Камедыйная меладрама «Афоня» (СССР).
**11.35** Гістарычны баявік «Тры каралеўствы. Вяртанне цмока» (Кітай- Паўднёвая Карэя- Ганконг).
**13.35** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**14.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд тура.
**15.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**18.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**19.15** Суперлато.
**20.20** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Дарожная гісторыя «Круты паварот» (ЗША).
**23.20** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Беларусь - Данія.
**01.25** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**02.25** Спорт-кадр.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Сола для трубы». Дакументальны фільм пра вядомага музыканта Э.Рознера.
**09.25** «Ім не было і шаснаццаці.» Дакументальны фільм пра сясцёр Яніну і Рэгіну Дрозд.
**09.45** «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Мастацкі фільм.
**11.25** «Асобны чалавек. Сны і явы Сяргея Пятроўскага». Фільм прысвечаны Сяргею Пятроўскаму.
**11.50** «Свет Караткевіча». Дакументальны фільм.
**12.15** «Смяротны танец». Дэтэктыў. 1-я - 4-я серыі.
**15.40** «Без права на дубль». Вера Халодная. Расплата за славу.
**16.30** «Культпрасвет».
**17.00** «Навагоднія прыгоды ў ліпені». Музычны фільм-казка.
**18.15** Сусветнае кіно. «Ледзяная кветка». Гістарычная меладрама.
**20.30** Калыханка.
**20.45** Канцэрт брытанскага кампазітара і гітарыста Джона Маклафліна.
**22.15** «Культпрасвет».
**22.40** «Шчаслівыя жабракі». Спектакль Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.
**00.55** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Страхавальнікі».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.00** Сёння.
**15.00** «Лепшы горад Землі».
**15.45** «Крамлёўскія дзеці».
**16.35** «Жыццё і смерць Жэні Белавусава». Фільм.
**17.40** «Ворагі народа». Аўтарскі праект.
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Вострасюжэтны фільм «Кома».
**23.15** «Ягор 360».
**23.45** «Прамень Святла».
**00.10** «Школа зласлоўя».

### МИР

**05.00** Дак.фільм «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Зямля і неба».
**09.35** «Прыгоды Македонскай».
**09.50** «Са свету па нітцы».
**10.15** Маст. фільм «Узброены і вельмі небяспечны».
**13.20** Маст.фільм «9 месяцаў».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45** Серыял «Гісторыя лётчыка».
**20.00** «Разам».
**21.00** Серыял «Гісторыя лётчыка».
**21.50** Маст. фільм «Сёмы дзень».
**23.45** Маст. фільм «Варэнікі з вішняй».
**01.05** Маст. фільм «Узброены і вельмі небяспечны».
**03.50** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 3 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 3 серыя.
**08.35** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**08.50** Беларусы ў Польшчы.
**09.05** Чорным па белым.
**09.35** Рэпартэр.
**10.00** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 3 серыя.
**10.30** Еўропа сёння.
**10.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**11.15** Спазнай свет: «Made in Poland», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**11.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**12.10** «Бландзінка», серыял: 7 серыя.
**12.55** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Тав. Маўзер».
**13.30** «Схаваныя злачынствы», маст. фільм, 2009 г., Канада.
**14.55** «Жыццё табе ўсё прабачыць», дак. фільм, 1998 г., Польшча.
**15.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**15.50** Форум (ток-шоу).
**16.35** «Катынь. Генацыд і прапаганда», дак. фільм.
**18.05** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.20** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**18.30** «Час гонару», серыял: 50 і 52 серыі.
**19.30** Дакументальная гадзіна: «Будучыня працуе», дак. фільм, 2012 г., Германія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Фільматэка майстроў: «Папросту разам», драма, 2007 г., Францыя.
**23.40** «Палітыканы», серыял: 4 серыя.
**00.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 36.
**00.50** Два на два (тэледыскусія).
**01.15** Вагон.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў (8 029) 930 79 22 Міхась;
Мінск (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк (8029) 364 42 60 Зінаіда.

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 _____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)

отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

RUBRIKA

# КАМУНІСТЫЧНЫ МАЙДАН

**На гэтую восень малдаўскія камуністы запланавалі правядзенне ў краіне «аксамітнай рэвалюцыі». Пра тое, як ідзе рэвалюцыйны працэс на радзіме Рыгора Катоўскага, журналіст «Новага часу» Алег Новікаў размаўляе з малдаўскім калегам Максімам Курсілевым.**



***— Калі і чаму сярод камуністаў узнікла ідэя «аксамітнай рэвалюцыі»? Якія задачы ў плануемых пратэстаў? Ці ўжо вядомы план перавароту?***

— Кіраўнікі Партыі камуністаў Рэспублікі Малдова (КПРМ) абвясцілі пра пачатак падрыхтоўкі да «аксамітнай рэвалюцыі» прыкладна ў сакавіку. Дэталі «штурму Зімняга» яны не абвяшчалі. Аднак з улікам таго, што ўвесь час КПРМ эксплуатуе тэму «аксамітнай рэвалюцыі» ў Чэхаславакіі 1989 года, можна меркаваць, што схема падобная — вывесці на вуліцы шмат людзей і такім чынам прымусіць уладу выканаць нейкія патрабаванні.

Галоўны пункт у спісе патрабаванняў — адстаўка нядаўна сфармаванага ўрада на чале з Юрыем Лянкэ і правядзенне новых парламенцкіх выбараў ужо ў гэтым годзе. Усе мясцовыя аглядальнікі пагаджаюцца, што заклікі да рэвалюцыі — рэакцыя камуністаў на правал спробаў дамагчыся датэрміновых выбараў, якія здаваліся вельмі рэальнымі пасля краху кабінету Міхаіла Гімпу. Аднак дэмакратам пад патранатам ЕС зноў удалося знайсці агульную мову і стварыць новую кааліцыю. Гэта палітычная няўдача балюча ўдарыла па пазіцыях камуністаў і падштурхнула іх заявіць пра намер выйсці на барыкады.

***— Выглядае нонсенсам рашэнне камуністаў узяць на ўзбраенне такі прыём, як аранжавая рэвалюцыя. У постсавецкай левай прэсе даўно сфармаваўся кансэнсус: рознага кшталту Майданы — гэта пратэсты, якія штучна інспіруюцца звязанымі з ЦРУ СМІ.***

— Камуністычная «аксамітная рэвалюцыя» супрацьпастаўляецца перш за ўсё падзеям красавіка 2009 года, калі нацыяналістычная моладзь захапіла будынак ураду. Сама рэвалюцыя падаецца як негвалтоўная акцыя, і нават вельмі пазітыўная для грамадства. Варонін кажа, што грамадзяне краіны абураныя дзеяннямі цяперашняй улады, у выніку чаго неўзабаве можа ўспыхнуць масавае паўстанне, і было б добра, каб яно было кантраляваным. У лік патэнцыйных рэвалюцыянераў камуністы запісваюць аж 80% насельніцтва краіны.

***— Пратэсты камуністаў цікавыя таксама з той прычыны, што на лістападаўскім саміце ў Вільнюсе Малдова збіраецца падпісаць Дамову пра гандлёвую зону з ЕС. Ці значыць гэта, што камуністы хочуць заручыцца падтрымкай Масквы, якая намагаецца любымі метадамі затармазіць рух Малдовы ў бок ЕС? Як вядома, у маі камісар Масквы ў рэгіёне Дзмітрый Рагозін катэгарычна заявіў, што Малдова павінна стаць сябрам еўразійскай інтэграцыі.***

— Кааперацыя Кішынёва з ЕС — галоўная прэтэнзія, якую Варонін адрасуе кіруючай кааліцыі. Ён цвердзіць, што ўся заканадаўчая дзейнасць у Кішынёве праходзіць пад дыктоўку юрыстаў з Брусэля. Аднак нападкі КПРМ на ЕС хутчэй выклікаюць недавер. Камуністы шмат зрабілі, будучы пры ўладзе, для ўзмацнення еўрапейскага вектару. Менавіта намаганнямі Вароніна Рэспубліка Малдова апынулася ва «Усходнім партнёрстве». Увогуле, у праграме партыі Вароніна можна прачытаць, што «ПКРМ выступае за еўраінтэграцыю». Пра інтэграцыю ў Мытны саюз у праграме «аксамітных рэвалюцыянераў» не сказана наогул ні слова. Магчыма, прымеркаваўшы сваю «аксамітную рэвалюцыю» да віленскай саміту «Усходняга партнёрства», партыя камуністаў дасылае выразны сігнал лаяльнасці Маскве. Як бы ні закончылася цяперашняя рэвалюцыя, на наступных парламенцкіх выбарах 2014 года гэта можа дапамагчы ПКРМ атрымаць адназначную падтрымку Крамля.

***— Ці крытыкуюць «аксамітныя рэвалюцыянеры» прыднястроўскую палітыку ўраду?***

— Лідар камуністаў Уладзімір Варонін адзначае, што кіруючы альянс за кошт фарсіраванай еўраінтэграцыі рызыкуе раскалоць Малдову і правесці новую дзяржаўную мяжу па Днястры. Сапраўды, у Ціраспалі апошнім часам усё больш гавораць пра тое, што падпісанне дамовы ў Вільнюсе будзе пратэстам дыпламатычнага прызнання Прыднястроўя з боку Масквы. Там так далёка не ідуць, аднак на першым этапе не супраць варыянту, калі рускі рубель будзе дзяржаўнай грашовай адзінкай ПМР. Аднак нейкай канструктыўнай альтэрнатывы ў камуністаў па гэтым пытанні таксама няма. Усе памятаюць, як Варонін у апошні момант сарваў падпісанне Мемарандума Козака, які меў на мэце пачаць паступовую рэінтэграцыю ПМР у склад Малдовы.

***— Як улада і праўладныя партыі адрэагавалі на такую незвычайную рэвалюцыйную ініцыятыву?***

— Пакуль за падрыхтоўкай да рэвалюцыі ўважліва сочаць выключна прарумынскія правыя партыі. Яны патрабавалі ад Генпракуратуры забараніць правядзенне моладзевых летнікаў КПМР, на якіх, быццам, моладзь рыхтуюць да экстрэмісцкіх акцый. Што тычыцца ўлады, дык там на ўльтрарэвалюцыйную рыторыку камуністаў рэагуюць вельмі спакойна. А дэмакраты на адрас рэвалюцыянераў абмяжоўваюцца іранічнымі каментарамі. Так, напрыклад, не абмінулі ўвагай жнівеньскі ліст Вароніна да прэзідэнта з просьбай пакінуць яму службовую машыну. Дзіўны, пагадзіцеся, ліст для палітыка, які, па яго словах, усур'ёз рыхтуе дзяржаўны пераварот.

***— Калі меркаваць па малдаўскай прэсе, ніякіх падзей, якія падпадаюць пад катэгорыю «рэвалюцыйныя», у Кішынёве не назіраецца. Няўжо рэвалюцыя закончылася, так і не распачаўшыся?***

— З самага пачатку ўся гісторыя нагадвала ліпу. Гісторыя, напэўна, не ведае выпадкаў, каб змоўнікі самі анансавалі антыдзяржаўны выступ, адмаўляючыся ад аднаго з галоўных фактараў паспяховай рэвалюцыі — раптоўнасці. Таму каментатары схіляюцца да таго, што КПРМ за кошт пагрозы сілавым сцэнарам намагалася атрымаць нейкія саступкі ад улады, спрабавала пафліртаваць з Масквой, і плюс да ўсяго імкнулася кансалідаваць свой электарат. Аднак пакуль масавай падтрымкі іх кампанія відавочна не мае.

Праўда, ёсць адно «але». Галоўны этап кампаніі яшчэ не пачаўся. Зараз рэгіянальным аддзяленням партыі загадана падрыхтаваць дастатковую колькасць прыхільнікаў, гатовых у «гадзіну Х» прыбыць у сталіцу і «стаяць да перамогі». Між тым, з набліжэннем саміту «Усходняга партнёрства» на ўлады Малдовы ўзмацняецца ціск. У Гагаузіі, дзе ў адміністрацыі прарасійскія сілы, кажуць аб выхадзе са складу Малдовы, а малдаўскім вінам зацікавіўся Аніштанка. У сукупнасці гагаузскае пытанне, гандлёвая вайна з Расіяй і пратэсты левай апазіцыі сапраўды могуць узняць градус палітычнай напружанасці, стварыць у грамадстве нават больш-менш падобнае на рэвалюцыйную атмасферу. Пакуль жа мы назіраем хутчэй фарс.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

За кошт эскалацыі канфлікту Мінск дэманстратыўна здзекуецца з Масквы і ўсяляк робіць выгляд, што не баіцца далейшага ўскладнення адносінаў з расійскім урадам. Інтрыга развязкі чарговага «саюзніцкага» скандалу заключаецца ў тым, ці знойдзе Уладзімір Пуцін у сваім шчыльным графіку час для асабістай сустрэчы з беларускім кіраўніком. На гэта відавочна разлічвае Аляксандр Лукашэнка ў перыяд правядзення на беларускіх палігонах стратэгічных вучэнняў «Захад–2013» 20–26 верасня. Пакуль жа Мінск робіць усё магчымае, каб да перамоў кіраўнікоў адзін на адзін пагроза эканамічных санкцый з боку Расіі стала рэальнасцю.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Бяда толькі ў тым, што ў нашай улады існуе нейкі страх. Ён заключаецца ў тым, што, страціўшы лаяльную, але пры гэтым таталітарную Беларусь, мы страцім нейкі кардон паміж намі і ЕС. Іншы элемент страху: калі не Лукашэнка, дык заўтра NATO будзе пад Смаленскам. І спадар Лукашэнка на гэтым страху актыўна гуляе, атрымліваючы ў той ці іншай форме чарговую порцыю грошай ад Расіі. Менавіта нашы ўласныя страхі дазваляюць Аляксандру Рыгоравічу шантажаваць Расію ў самых розных формах. Дык, можа, каб нашых грамадзян больш не арыштоўвалі ў Мінску, час пазбавіцца ад гэтых страхаў? Хвост можа віляць сабакам толькі тады, калі сабака сам гэта дазваляе. Можа, час пачаць будаваць канструктыўныя адносіны не толькі з кіраўніцтвам гэтай краіны, але і з апазіцыяй? Таму што рана ці позна такая эканоміка абрынецца. І як бы тады ні разваліліся і Мытны саюз, і Саюзная дзяржава…

**«Итоги» (Расія)**

Беларусь — аўтакратычная дзяржава Еўропы — не страціла шанцаў на інтэграцыю з ЕС. Але Крэмль усё адно мае зуб за іншае. Па-першае, Расію раздражняе, што Мінск шукае фінансавай дапамогі ў Кітаі, а па-другое, што Лукашэнка не выказвае належнай павагі да Пуціна, хаця Пуцін лічыць яго проста сваім васалам. У цэлым жа апошні канфлікт паказвае, што магчымасці ўплыву Расіі нават на славянскія рэспублікі былога СССР абмежаваныя, а прывабнасць расійскай мадэлі — нізкая.

**«Financial Times» (Вялікабрытанія)**

Можна толькі здагадвацца, які велізарны ўрон панясе беларуская эканоміка, калі Крэмль уключыць усе магчымыя механізмы супраць Лукашэнкі. Напрыклад, пакуль Мінфін РФ не адмаўляецца ад прадстаўлення Беларусі чарговага крэдыту ў 440 мільёнаў долараў, але ж можа і адмовіцца: бо знешні доўг Беларусі ўжо дасягнуў 16 мільярдаў долараў і наўрад ці краіна ў стане гэтыя грошы аддаць... Пасля ўсіх «мер ціску» з боку Расіі яшчэ больш павялічыцца і без таго вялікі дэфіцыт гандлёвага балансу Беларусі. А за ім услед непазбежна адбудзецца і новы абвал беларускага рубля і, як следства, новае збядненне насельніцтва Беларусі, якое прывядзе да падзення рэйтынгу Лукашэнкі да новага гістарычнага мінімуму ў 10–15%, пасля якога яму будзе ўжо не падняцца вышэй за 25% да выбараў прэзідэнта 2015 года а гэта будзе азначаць непазбежную паразу.

**«Аргументы и факты» (Расія)**

Многіх здзівіла нязладжанасць хору галасоў у падтрымку Уладзіслава Баўмгертнера. Здавалася б, фактычны захоп у закладнікі кіраўніка буйнога расійскага прадпрыемства павінен выклікаць больш жорсткую рэакцыю, чым мы назіраем сёння. Адказ тут, магчыма, такі: быццам бы спантаннае эмацыйны рашэнне Лукашэнкі на самай справе было пралічана на некалькі крокаў наперад. Беларускі кіраўнік улічыў стаўленне да асобы Сулеймана Керымава і ў расійскім грамадстве (на яго публічнай абароне ні адзін палітык не зможа зарабіць балы, а хутчэй нават страціць), і ўласна ва ўладнай эліце, якая раздзіраецца кланавымі канфліктамі. Не выключана, што Уладзіслаў Баўмгертнер правядзе ў беларускай турме досыць шмат часу — пакуль у двухбаковых адносінах не з'явіцца важкая падстава для ўзаемавыгаднага абмену.

**«Русский репортер» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### **РАСІЯ.** МАСКВА ХОЧА ЎЗНАЧАЛІЦЬ ЦЮРКСКУЮ ІНТЭГРАЦЫЮ

Гэты сенсацыйны прагноз выдаў казахскі папулярны незалежны сайт zona.kz. Да такіх высноў выданне прыйшло, прааналізаваўшы паводзіны Масквы падчас саміту кіраўнікоў цюркскіх дзяржаў, які на мінулым тыдні адбыўся ў Баку. Калі верыць выданню, прысутныя на саміце расійскія дыпламаты ў яго кулуарах неаднаразова выказваліся пра намер Масквы ўвайсці ў цюркскі клуб. Сваё жаданне яны звязваюць з тым, што шматлікія грамадзяне РФ маюць цюркскае паходжанне. Праўда, у тое, што Масква кіруецца выключна клопатам пра сваіх цюркаў, казахскія журналісты не вераць. Адны мяркуюць, што Масква за кошт прысутнасці ў цюркскім працэсе хоча дамагчыся большай палітычнай лаяльнасці з боку башкір і татар. У гэтых аўтаноміях назіраецца рост сепаратысцкіх настрояў. Іншыя лічаць, што Расія за кошт падключэння да цюркскага руху хоча скараціць магчымасць манеўру для Назарбаева. Казахскі лідар, хаця і клянецца ў адданасці еўразійскай інтэграцыі, вельмі актыўна гуляе ў панцюркізм. Яго выказванні наконт таго, што будучыня Казахстану — у цюркскай сям'і народаў, відавочна падрываюць давер казахаў да перспектыў заснаванага Масквой Мытнага саюзу.

**Паводле казахскай прэсы**

### **ГЕРМАНІЯ.** ГАДАВІНА ПАДЗЕННЯ СЕДАНА

Нямецкія правыя нечакана паспрабавалі адзначыць дату 2 верасня. Гэты дзень калісьці займаў асаблівае месца ў календары нямецкіх нацыяналістаў. 2 верасня 1871 года падчас Франка-прускай вайны французская крэпасць Седан капітулявала, што азначала крах імперыі Банапарта Трэцяга і поўную перамогу немцаў. У 1923 годзе, праз пяць гадоў пасля пройгрышу ў Першай сусветнай вайне, нямецкія правыя партыі вырашылі пачаць адзначаць гэтую дату. Адпаведныя акцыя праводзілася да 1945 года і мелі вялікі грамадскі рэзананс. Так, на цэнтральную маніфестацыю ў Нюрнбергу штогод з усёй Германіі збіралася каля ста тысяч чалавек. Гісторыкі лічаць, што ў 1920-я гады менавіта падчас святкаванняў падзення Седану ўзнікла ідэя стварэння вулічных пагромных атрадаў — так званых "штурмавікоў", якія пазней адыгралі істотную ролю ва ўсталяванні нацысцкай дыктатуры. Што тычыцца святкавання гадавіны падзення Седану ў 2013 годзе, дык яно наўрад ці будзе мець такія глабальныя наступствы. Усё абмежавалася шэрагам пікетаў, сэнс якіх звычайныя бюргеры яўна не зразумелі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### **АРМЕНІЯ.** НАГОРНЫ КАРАБАХ І МЫТНЫ САЮЗ

Каментуючы рашэнне Арменіі далучыцца да Мытнага саюза, мясцовая прэса выявіла адну малую, аднак важную для краіны праблему — што рабіць пры такім сцэнары з Нагорным Карабахам? Непрызнаная рэспубліка мае агульную мяжу з Арменіяй і, больш таго, фактычна існуе за кошт датацый з Ерэвану. Ці не давядзецца, у выпадку далучэння Арменіі да Мытнага саюза, мяжу з Нагорным Карабахам пераўтвараць у сапраўдную? Як піша адна з армянскіх газет, «узнікае пытанне: а ў якіх межах Арменія будзе ўваходзіць у Мытны саюз? Прасцей кажучы, ці будзе ў яго ўваходзіць і Карабах? Вядома ж, не будзе. Казахстан гэтага дакладна не пацерпіць, ды і Расія не захоча псаваць адносіны з выгадным у плане бізнэсу кліентам — Азербайджанам. А гэта азначае, што паміж Арменіяй і Карабахам будзе пабудавана мытня». Тая мытня, на думку наглядальнікаў, можа аслабіць гаспадарку Карабаху і, адпаведна, абарончы патэнцыял. Таксама пужае армян тое, што на мытні на армяна-карабахскай мяжы, па законах МС, могуць знаходзіцца беларускія, казахскія або рускія службоўцы. Паколькі той жа Мінск або Астана маюць добрыя адносіны з Баку, тыя службоўцы могуць перадаваць азербайджанцам важную інфармацыю, якая тычыцца пытанняў абароны Карабаху.

**Паводле армянскай прэсы**

### **ПОЛЬШЧА.** НОВЫЯ ФАКТЫ ПРА ЛЕПЕРА



Польскі штодыднёвік «Wprost» сцвярджае, што Анджэй Лепер — заснавальнік партыі «Самаабарона» і вялікі сябра беларускага рэжыму, займаўся шантажам бізнэсоўцаў. Незадоўга да таго, як накласці на сябе рукі (палітык быў знойдзены мёртвым 11 красавіка 2011 года), ён выбіваў грошы з прадпрымальніка Рычарда Краўза, пра што сам Краўз нядаўна паведаміў журналістам. Паводле яго словаў, Лепер пагражаў перадаць у службу, якая займаецца барацьбой з карупцыяй, інфармацыю пра тое, як Краўз калісьці фінансаваў падтрымліваў партыю «Самаабарона». Бізнэсовец палічыў, што гэта проста дзіцячы шантаж, і адмовіў Леперу ў грошах. Калі Краўз не хлусіць, то версія следчых, якія шукалі прычыну смерці Лепера, падаецца вернай. Яны, нагадаем, заключылі, што Лепер здзейсніў акт суіцыду, паколькі набраў мноства пазыкаў і ў патрэбны час не змог разлічыцца па вэксалях. Як вядома, прыхільнікі Лепера ўпарта сцвярджаюць, што іх куміра забілі. Застаецца дадаць, што партыя «Самаабарона» — партнёр беларускай арганізацыі «Белая Русь», што неаднаразова выклікала за Бугам іранічныя каментары з-за шлейфу карупцыйных скандалаў з удзелам «Самаабароны».

**Паводле польскай прэсы**

СЕПАРАТЫЗМ

# РУКІ ПРЭЧ АД ІНДЗЕЙЦАЎ

*Алег НОВІКАЎ*

**Нядаўна Беларусь наведаў Эва Маралес — лідар Балівіі, адной з самай незвычайных дзяржаў у свеце. Нават апазіцыя ў Балівіі незвычайная — антыіндзейская.**



Безумоўная фішка адміністрацыі Маралеса (ён знаходзіцца пры ўладзе з 2005 года) — паслядоўная палітыка адраджэння індзейскай дзяржаўнасці, якая існавала ў Паўднёвай Амерыцы да прыходу канкістадораў. Такая глабальная ўстаноўка рэалізуецца перш за ўсё праз шырокія прававыя і культурныя рэформы. Прынятая пры Маралесе канстытуцыя надае тубыльцам шырокі правы. Акрамя іспанскай, статус дзяржаўнай атрымліваюць мовы ўсіх індзейскіх народнасцяў краіны, прадугледжваецца ўвядзенне абавязковага вывучэння моваў індзейскіх народнасцяў. Нават прапануецца шанаваць на дзяржаўным узроўні багіню земляробства і ўрадлівасці старажытных індзейцаў — Пачамаму.

Аднак палітыка індыянізацыі выклікала адваротную рэакцыю з боку нашчадкаў тых саміх канкістадораў, якія таксама даўно жывуць у Балівіі (індзейцы складаюць толькі 62 працэнта насельніцтва краіны). «Белыя» рэгіёны, дзе індзейцы ў меншасці або традыцыйна не адыгрываюць ніякай ролі ў грамадска-палітычным жыцці, патрабуюць больш аўтаноміі, федэралізацыі краіны і нават незалежнасці. Больш таго, сепаратысцкія цэнтры становяцца цэнтрам агульнанацыянальнай апазіцыі.

Гаворка перш за ўсё пра правінцыю Санта-Круз, дзе ў 2000-я гады была сфармаваная ідэалогія nacionalismo camba. У аснове дактрыны nacionalismo camba — ідэя таго, што чатыры ўсходніх дэпартамента Балівіі маюць асобны ад іншай Балівіі этнакультурны код. Пра гэта, быццам, сведчыць асобны дыялект, звычаі, гісторыя. Сцвярджалася, што індзейцы з Захаду Балівіі з'яўляюцца чужымі для гэтага арэалу. Быццам, яны прыйшлі сюды толькі, калі ўрад пачаў кампанію каланізацыі горных тэрыторый. Як часта бывае, мігрантам (іх тут называюць colas) прыпісваюць адказнасць за ўсе сацыяльныя хваробы. Так ці інакш, быццам, ёсць усе падставы казаць пра існаванне асобнай нацыі пад назвай камба (camba).

Хутка на палітычнай сцэне з'явіліся і лакальныя сепаратысцкія партыі. Некаторыя час вядучую ролю гуляў «Рух вызвалення нацыі камба», або проста «Nación Camba».

Безумоўна, спробы стварыць нацыю камба выклікалі рэакцыю ў адказ. Крытыкі перш за ўсё звярталі ўвагу на той факт, што сама ідэя ўнікальнай нацыі камба паўстала ў 2005 годзе якраз пасля абрання Маралеса на пасаду прэзідэнта. Раней чамусьці ніякіх патрабаванняў суверэнітэту з боку абарыгенаў не ўзнікала. Звярталася ўвага на тое, што сепаратысцкія заклікі падтрымалі лідары вядучых нацыянальных апазіцыйных партый. Іншымі словамі, на думку афіцыёзу, ідэя «Nación Camba» была сродкам дэстабілізацыі сітуацыі з мэтай звяржэння Маралеса.

Сусветная аналітычная думка пагаджалася з тым, што сваім стварэннем нацыя камба абавязаная не культурным або моўным асаблівасцям рэгіёна, а выключна эканамічнаму фактару. На чатыры ўсходнія правінцыі прыходзіцца 42 працэнты ВУП. У выніку прыбытак жыхароў на трацыну большы, чым у сярэднім па краіне.

Мясцовая буржуазія баіцца пунктаў новай канстытуцыі, якія надзяляюць індзейцаў правам уласнасці на зямлю. На лацінаамерыканскіх левых сайтах сцвярджаюць, што да папулярызацыі ідэй пра правы народу камба падключылася амбасада ЗША. У Вашынгтоне заўсёды вельмі крытычна ставіліся да Маралеса з-за яго ідэі-фікс легалізаваць коку — сыравіну для вытворчасці какаіну. Маралес сцвярджае, што кока адыгрывае вялікую ролю ў культуры індзейцаў.

Нягледзячы на канцэптуальную слабасць тэорыі існавання нацыі камба, сепаратызм хутка стаў масавым рухам у рэгіёне. У маі 2008 года мясцовыя ўлады арганізавалі рэферэндум, удзельнікам якога прапанавалі выказацца «за» або «супраць» аўтаноміі Санта-Круз у складзе Балівіі. Гэта аўтаномія павінна была стаць суб'ектам міжнароднага права з уласнымі заканадаўчай і судовай уладай, урадам, міліцыяй, падатковай сістэмай і бюджэтам, правам заключаць міжнародныя дамовы.

Нягледзячы на заклік цэнтру байкатаваць мерапрыемства, 40 працэнтаў маючых права голасу ўзялі ўдзел у плебісцыце. З іх 82 працэнты выказалася за аўтаномны статус Санта-Круз. Ла-Пас вынікі галасавання, натуральна, не прызнаў, а сам працэс галасавання ў некаторых раёнах перарос у бойку з ужываннем зброі. Падобныя рэферэндумы з тым жа фіналам прайшлі яшчэ ў двух штатах усходняй Балівіі.

Вынікі галасавання сталі прадметам шырокай дыскусіі сярод юрыстаў. Нельга было адмаўляць той факт, што большасць грамадзян шляхам адкрытага свабоднага галасавання выказалася за аўтаномію. Празрыстасць выбарчага працэсу прызналі нават у ААН. З іншага боку, шэраг правазнаўцаў (у тым ліку прадстаўнік камісіі ААН па правах карэнных народаў) даводзілі, што рэферэндум не можа лічыцца дэмакратычным, паколькі быў накіраваны на падтрыманне эканамічнага прыгнёту большасці жыхароў Балівіі. На канчатковы вынік дыскусіі, хутчэй за ўсё, паўплывала агульная думка лацінаамерыканскай палітычнай эліты. Лідары ўсіх суседніх краін падтрымалі пазіцыю Маралеса, паколькі баяліся, што прыклад Санта-Круз можа стаць імпульсам для актывізацыі сепаратыстаў у іхніх краінах. Напрыклад, толькі ў суседняй Бразіліі дзейнічаюць 6 партый сепаратысцкага характару.

Але вердыкт міжнароднай грамадскасці не зрабіў усходнікаў больш лаяльнымі. У 2009 годзе прыкладна 63 працэнты жыхароў усходу прагаласавалі супраць новай канстытуцыі. У іншых рэгіёнах Балівіі вынік галасавання былі люстэркавымі — 63 працэнты «за» канстытуцыйныя змены.

У тым жа 2009 годзе па кіраўніцтву руху «Nación Camba» быў нанесены моцны ўдар. Улады абвінавацілі лідара партыі «Рух вызвалення нацыя камба» Эдуарда Роша ў падрыхтоўцы замаху на прэзідэнта Балівіі і спробе палітычнай дэстабілізацыі. У якасці доказаў згадвалася тое, што Роша паспеў павяваць на Балканах у складзе харвацкіх частак і меў кантакты з мясцовымі параміліітарнымі групоўкамі. Ён сапраўды схіляўся да радыкальных планаў. Так, у штабе «Nación Camba» ўсур'ёз думалі пра паўтарэння подзвігу Чэ Гевары — Роша з невялікім атрадам павінен быў пачаць партызанку, якую б відавочна ліквідавалі ўрадавыя фармаванні. Смерць Роша (частка задуманай схемы) павінна была стварыць з яго новага куміра рэвалюцыянераў усяго свету. Увогуле, Эдуарда быў яшчэ тым фрыкам. Пры жыцці (ён памёр у тым жа 2009-м) ён паспеў прайсці шлях ад сябра каталіцкага ордэну «Opus Dei» да прыхільніка ісламу.

Пасля 2009 года пра сепаратызм камба кажуць не так шмат. Відавочна, што апазіцыя зараз намагаецца дзейнічаць на нацыянальным, а не рэгіянальным узроўні. Такая тактыка патрабуе прызнання ў тым ліку сацыяльных правоў індзейцаў, якія ім даў Маралес. Аднак вопыт таго ж Прыднястроўя або Крыма падказвае, што наўрад ці ідэя нацыі камба цалкам пахаваная. У тым ліку і таму, што яўныя перакосы нацыянальна-культурнай палітыкі ўлады, як прызнае сусветная прэса, выклікаюць сярод белай меншасці комплекс адчужэння ад дзяржаўнага праекту Маралеса.

ПАДЗЕЯ

# НАВАЛЬНЫ І БУДУЧЫНЯ РАСІЙСКАЙ АПАЗІЦЫІ

Алег НОВІКАЎ

**По слядах маскоўскіх выбараў Аляксей Навальны задумаў стварыць самы моцны апазіцыйны рух у краіне. Ці былі яго словы прысудам для старой антыпуцінскай апазіцыі? Прапануем вашай увазе агляд аналітыкі.**

«У Расіі нарадзіўся вялікі палітычны рух, які прадстаўляе інтарэсы большасці, і мы — гэты палітычны рух», — так падсумаваў вынікі сваёй кампаніі ў Маскве сам Аляксей Навальны са сцэны мітынгу на Балотнай плошчы ўвечары 9 верасня.

Хаця цытата гучыць амбіцыйна, элемент праўды тут ёсць. Як адзначае BBC, «атрымаўшы 27 працэнтаў на выбарах сталічнага мэра, Навальны замацаваў за сабой статус адназначнага апазіцыйнага лідара. І не толькі сярод лібералаў, а самага шырокага антысістэмнага фронту, які ўключае ў сябе і нацыяналістаў, і пратэстны электарат без ідэалогіі, і тых, хто папросту незадаволены ўсім».

Як следства, фурор Навальнага нясе яўную пагрозу тым, хто даўно працуе ў Расіі на рынку апазіцыйных паслуг. Тым больш, сам срэбны прызёр выбараў мэра, мяркуючы па яго заявах, трымае сістэмную апазіцыю за фрагмент створанай «жулікамі і злодзеямі» ненавіснай яму існуючай мадэлі. «Паглядзіце на любую партыю. Сядзяць мардатыя мужыкі ў Думе, атрымліваюць сотні мільёнаў бюджэтных грошай і не могуць абсалютна нічога», — сказаў неяк Навальны.

Гэтыя словы не могуць не нерваваць «мардатых мужыкоў». Таксама, як і чуткі, звязаныя з фактам незвычайнага вызвалення Навальнага пасля прысуду па справе «Кіраўлеса». Быццам, у Крамлі вырашылі, што Навальны павінен падмяніць Жырыноўскага, Зюганава і іншых. Так, левыя сайты адзначаюць, што «ўся палітычная кар'ера і погляды Аляксея Навальнага могуць служыць пацверджаннем таго факту, што ён з'яўляецца не радыкальным праціўнікам існуючай сістэмы, а толькі выразнікам інтарэсаў яе «мінарытарных акцыянераў» — тых слаёў бізнэсу, што незадаволены правіламі гульні, усталяванымі бюракратычнай вярхушкай і сыравіннай алігархіяй, якая з ёй зраслася».

Сайт Anticapitalism.ru піша: «Назіраючы за тым, як разліваецца Навальны пра «нараджэнне вялікай апазіцыі», як ліберальныя каментатары вітаюць мудрае рашэнне свайго куміра «адмовіцца ад варварскіх метадаў доказаў праваты», г. зн. несанкцыянаваных акцый пратэсту, разумееш, што вяртанне да справы «Кіраўлеса» было б цяпер для ўладаў велізарнай памылкай. 8 верасня дэмакратычны рух у тым выглядзе, у якім мы яго ведалі раней, памёр. Нарадзілася апазіцыя, якая ідзе на змену старым марыянеткам КПРФ, ЛДПР і СР».

Нядзіўна, што лідары думскіх партый ніколі не любілі Навальнага. «Я бачыў, як так званыя дэмакраты прыводзілі да ўлады спадара Ельцына. Тады з яго рабілі дэмакрата, прыхільніка сціплага жыцця. Сёння нешта падобнае адбываецца з Навальным. Я быў уражаны, калі — упершыню ў гісторыі праваахоўнай сістэмы — яго раніцай судзілі, а ўвечары выпусцілі. Я думаю, што ў Крамлі ёсць дзве вежы, адна з якіх працуе разам з амерыканскімі спецслужбамі на спадара Навальнага», — адзначыў па слядах выбараў лідар КПРФ.

Такая эмацыйная ацэнка з боку Зюганава, думаецца, таксама звязаная з мінорнымі для камуністаў вынікамі галасавання ў Маскве. Кандыдат КПРФ Ігар Мельнікаў набраў усяго 9 працэнтаў. Мельнікаў — гэта не проста кандыдат, а, на думку прэсы, будучы пераемнік Генадзя Андрэевіча на пасадзе партыйнага лідара. Тое, што нейкі блогер абскакаў кандыдата другой парламенцкай фракцыі, псуе імідж патэнцыйнага старшыні КПРФ.

Праўда, традыцыйны апазіцыйны электарат і так не ў захапленні ад старых апазіцыйных структур. Сайт ForumMSK адзначае: «Ён (Навальны) парушыў спакой ва ўтульным апазіцыйным балоце, дзе, з аднаго боку, ты змагар з рэжымам, а з другога — атрымліваеш ад гэтага рэжыму ніядрэнную пайку. А калі не ад рэжыму, дык ад людзей з заходніх фондаў. Пры гэтым самая вялікая бяда такіх вось рэвалюцыянераў-праваабаронцаў — гэта застацца без фінансавання».

Адсюль і феномен Навальнага. «Большасць тых, хто прагаласаваў за яго, гатовыя змірыцца з тым, што Навальны — гэта язда ў невядомае, як казаў Маякоўскі пра паэзію. Мы згодныя, сказаў электарат, паедзем, таму што жыць на гэтай тухлай станцыі сярод мардатых злодзеяў і цётак з бегаючымі вочкамі больш няма сіл. Ужо не проста ванітуе, ужо ванітуе з крывёю. Больш няма сіл слухаць «тэлерадыёбрахню». Давайце паедзем куды заўгодна... Але паедзем зараз».

З такімі настроямі ў Навальнага ёсць шанец на перафарматаванне апазіцыі. «Той механізм, які нарадзіўся падчас гэтых выбараў і прадэманстраваў сваю выключную эфектыўнасць і працаздольнасць, павінен развівацца і далей. Абсалютна зразумела, што падчас выбараў нарадзілася апазіцыйнае аб'яднанне вакол Аляксея Навальнага, якое ўпершыню за многія гады з'яўляецца сапраўды эфектыўным, масавым і папулярным», — піша «Независимая газета».

Яшчэ адзін цікавы момант у феномене росту папулярнасці Навальнага выявіла інтэрнэт-выданне Slon.ru: «Вялікім федэральным палітыкам, якім ён цяпер, безумоўна, з'яўляецца, Аляксея Навальнага зрабілі самі федэральныя ўлады, прыклаўшы для гэтага занадта шмат відавочных намаганняў. Задаваць услых пытанне: «Калі не Пуцін, дык хто?» больш ніхто не рашыцца, таму што адказ на яго цяпер ёсць. Ёсць гатовая альтэрнатыва Пуціну, якая, як сам Пуцін у 1999 годзе, вось-вось стане безальтэрнатыўнай».

Аднак сярод аналітыкаў хапае такіх, якія скептычна ацэньваюць палітычную будучыню Аляксея. На думку некаторых палітолагаў, выбарчая кампанія ў Маскве яскрава давяла, што па свайму характару Навальны не здольны быць лідарам шырокага дэмакратычнага руху. «Мы ведаем Навальнага, мы ведаем начальніка яго штаба — Волкава. Хто яшчэ вакол Навальнага з яго аднадумцаў нам вядомы? Там ёсць блогеры, якія для кампаніі апынуліся каштоўнымі і эфектыўнымі. Аднак для палітычнай супольнасці яны ніхто. Ён як пачынаў гэтую кампанію адзінокім, так і скончыў яе адзінокім», — цытуе «Независимая газета» намесніка дырэктара Цэнтра палітычных тэхналогій Барыса Макаранку.

Праўда, магчыма, тут сваю ролю адыграў не столькі кепскі характар Навальнага, колькі іншых апазіцыянераў. У разгар выбараў на радыё «Эхо Москвы» прызнавалі: «Як паказвае гісторыя, наша апазіцыя ніколі вакол кагосьці не аб'ядноўвалася. Паказальна таксама, што судовы працэс над Навальным выявіў і другі бок расійскай апазіцыі: зайздрасць — нерв «маргінальных апазіцыянераў». Пульсацыя гэтага нерва затуманіла іх розум».

Адзначаюць і размытасць электаральнай базы Навальнага. «Навальны — гэта праект, які хутка псуецца. Так сышліся зоркі — белыя стужачкі абрыдлі. Замены ім не знайшлося, а тут яшчэ дурны суд плюс невядома навошта прыдуманыя выбары ў Маскве, нянавісць ад дзеючай улады і, як вынік, як эманацыя пратэсту — Навальны», — піша аналітык Уладзімір Грычанаў. На яго думку, не маючы сваёй структуры (Навальны яе не мае), блогер-палітык не зможа пратрымацца на медыя-рынку. У сваю чаргу, стварэнне такой структуры патрабуе часу і шмат руціннай працы, якой Навальны ніколі не займаўся, гатоўнасці да кампрамісаў.

Канкрэтным крокам у бок стварэння новага апазіцыйнага полюсу пад Навальнага могуць стаць выбары ў Маскоўскую думу ў наступным годзе. Пад іх ужо зараз ствараецца кааліцыя, куды будуць сцягвацца «Народны альянс», «Партыя 5 снежня», частка «РПР-Парнас», рух «Салідарнасць». Праўда, усё гэта слабыя брэнды. Калі аўтарытэт Навальнага (ужо вядома, што спіс узначаліць ён) прызнаюць партыі «Яблоко» і «Грамадзянская платформа», гэта стане сапраўды стартам трансфармацыі расійскага апазіцыйнага поля. Там пакуль варыянт уваходу ў кааліцыю з Навальным не каментуюць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### СВЯТАСЛАЎ ХАНЕНКА



Дэпутат ад украінскага нацыяналістычнага аб'яднання «Свабода» Святаслаў Ханенка патрапіў у скандал. У СМІ з'явіліся яго фота ў стылі ню. Мяркуючы па фону, на якім выяўлены голы дэпутат, здымак зроблены ў парламенцкім кабінеце. Тая фатасесія выклікала шок, паколькі «Свабода» лабіруе клерыкальныя законы і шмат увагі надае барацьбе з рухам сэксуальных меншасцяў. На думку палітолагаў, менавіта дзеля таго, каб замяць скандал вакол Хаменкі, нацыяналісты пачалі буйную кампанію супраць опернай салісткі. 5 верасня сапрана ўкраінскай оперы Кацярына Абдуліна ў сваіх каментарах у Facebook напісала, што аддала дачку вучыцца ў рускую гімназію і не шкадуе пра гэта. «Ды наогул кантынгент бацькоў і дзяцей (рускамоўнай гімназіі) рэзка адрозніваецца ад быдлячых украінскіх школ... Я рада, што мая дачка вучыцца сярод маральна здаровых дзяцей. А не сярод быдла», — напісала яна. Увага грамадскасці сапраўды хутка пераключылася з Хаменкі на спявачку. Гучаць заклікі — звольніць Абдуліну, сабатаваць яе выступы, зрабіць руканепацісальны сярод калег і г.д. Кульмінацыяй стаў напад групы нацыяналістаў на Кацярыну, якую аблілі маянэзам. Між тым, артыстка сцвярджае, што нататку на Facebook пра быдлячых ўкраінскія школы пакінуў яе былы муж, з якім яна пасварылася. Хаця Абдуліна публічна прынесла прабачэнні, сябры «Свабоды» вырашылі оперную тэму так проста не пакідаць. Партыя прыняла рашэнне напісаць оперу.

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Прэзідэнт Казахстана, нягледзячы на салідны ўзрост, працягвае эксперыментаваць з палітычнай мадэллю краіны. Выступаючы ў парламенце, ён заявіў, што наступны парламент павінен быць двухпалатным. Паводле яго слоў, тады пачнецца новы этап у развіцці «нашай маладой дэмакратыі». Зараз казахскі парламент складаецца з адной палаты, прычым усе дэпутаты, акрамя аднаго чалавека, запісаны ў афіцыйную партыю «Нур Атан». Назарбаеў лічыць, што прыйшоў час разбавіць склад парламенту прадстаўнікамі іншай партыйнай структуры. Ён лічыць, што ў наступным парламенце павінна быць як мінімум дзве партыі, нават калі другая набярэ ў параўнанні з «Нур Атан» (у перамозе якой казахскі гарант не сумняваецца) вельмі мала галасоў. Ініцыятыва пра двухпартыйнасць, як ні парадаксальна, не выклікала інтарэсу ў грамадстве і дэмакратычных колах. Гэта можна растлумачыць тым, што ўсе электаральныя кампаніі ў Казахстане праходзяць з выкарыстаннем адміністратыўнага рэсурсу і ціскам на апазіцыю. Нават калі другую партыю пусцяць у парламент, наўрад гэта будуць апаненты рэжыму. У краіне створаны клуб квазіапазіцыйных партый, адну з якіх адпаведнай адміністратыўнай дырэктывай могуць зрабіць парламенцкай. Магчыма, гэтай другой палітычнай сілай стане экзатычная нацыяналістычная партыя «Вялікі Стэп», пра заснаванне якой якраз напярэдадні выступу Назарбаева паведаміў адзін з праўладных палітолагаў.

### СЕБАСЦЯН ПІНЕЙРА

Прэзідэнт Чылі, кансерватар Пінейра асобна ад ураду, які ўзначальвае сацыялістка Мішэль Бачэлет, вырашыў адзначыць дату 11 верасня — 40-ю гадавіну путчу Пінача. Ініцыятыву падтрымалі ўсе правыя партыі, якія лічаць, што Піначчэт выратаваў Чылі ад ператварэння ў другую Кубу. Аднак выступ прэзідэнта на мітынгу 5 верасня расчараваў аўдыторыю. Пінейра прыцягнуў увагу грамадскасці да феномену барацьбы правых палітыкаў з дыктатурай Піначчэта, а таксама асудзіў палітыку цэнзуры, якую праводзілі путчысты. Такія тэзісы выклікалі дружную крытыку на адрас прэзідэнта з боку найбольш моцных фармаванняў правых — «Нацыянальнага адраджэння» (RN) і «Дэмакратычнага незалежнага саюза» (UDI). Апошнія разглядаюць фігуру і спадчыну Піначчэта як вельмі важныя для кансалідацыі цяперашняй чылійскай правай. Раздзьмутая тэма Піначчэта, якая падзяліла правых, на думку прэсы, можа негатыўна адбіцца на шансах Эвелін Матэі (Evelyn Matthei) — адзінага кандыдата ад правых сіл на прэзідэнцкіх выбарах 17-га лістапада. Эвелін — дачка вайскоўца, які падтрымаў путч 11 верасня 1973 года. Наўрад яна зацікаўлена ў тым, каб падчас сваёй выбарчай кампаніі шмат казалі пра Піначчэта, ускосна згадваючы сувязь яе сям'і з дыктатурай. На цяперашні момант 76 працэнтаў чылійцаў лічаць Піначчэта дыктатарам.



▸ ТРАДЫЦЫІ

# ШЛЯХЕЦКІ МАЁНТАК У ЛЮСТЭРКУ ЧАСУ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У міжваеннае дваццацігоддзе ў Заходняй Беларусі дваранскія палацы і сядзібы былі цэнтрам грамадскага і культурнага жыцця. А як жылі ў 1920–1930-я гады нашчадкі магнатэрыі некалі магутных Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай і якія парадкі панавалі ў іх радавых сядзібах?**



Тыповы шляхецкі маёнтак

## Ардынаты і дробныя землеўласнікі

Як вядома, у Другой Рэчы Паспалітай былі адменены саслоўныя прывілеі. Аднак дзякуючы сваім буйным зямельным уладанням (у тым ліку і ардынацыям), развітай гаспадарцы, прадстаўнікі дваранства літоўска-беларускіх зямель працягвалі заставацца вельмі ўплывовай групай тагачаснага польскага грамадства. Аднак былі і менш багатыя шляхецкія роды. Сярэдні дваранскі зямельны маёнтак у паўночна-ўсходніх ваяводствах складаў ад 50 да 150 гектараў зямлі. У адпаведнасці з зямельнай рэформай, у Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах дапускалася мець у ва ўласнасці да 400 гектараў зямлі. Частка дваран у 1920-я гады не вытрымала эканамічных і палітычных выпрабаванняў і паступова збяднела, а іх маёнткі былі выстаўлены на продаж на аўкцыёнах.

Яшчэ з часоў Расійскай імперыі шляхта Паўночна-Заходняга краю імкнулася ўкараняць новыя, замежныя спосабы развіцця жывёлагадоўлі і раслінаводства. Варта падкрэсліць, што прадстаўнікі шляхецкіх родаў замаўлялі спецыялізаваную літаратуру з Еўропы. Нярэдка з Захаду прыязджалі і аграномы. Падобная сітуацыя назіралася і ў міжваенны час. Пры гэтым акцэнт рабіўся на апрацоўцы мясцовай сыравіны. Калі ля маёнтку знаходзіліся сажалка ці рака, гаспадары рабілі ўсё, каб наладзіць адлоў рыбы, ракаў.

Дарэчы, рыбныя тавары, апрацаваныя ў прыватных шляхецкіх прадпрыемствах Заходняй Беларусі, экспартаваліся ў Еўропу, у тым ліку ў Бельгію і Францыю. Такім жа поспехам карысталіся і мясцовыя вяндліны. Распаўсюджанай была прадукцыя сыроў. Дзеля гэтага са Швейцарыі замаўляліся спецыяльныя інгрэдыенты.

На Палессі і на Нёмане ў шляхецкіх маёнтках быў распаўсюджаны агратурызм, які падтрымліваўся з боку польскай дзяржавы. Такая разнастайнасць гаспадарчай дзейнасці тлумачылася тым, што ў 1920–1930-я гады эканамічная сітуацыя Польшчы была нестабільнай, і дваранства ўсходніх ваяводстваў спрабавала рабіць шматфункцыянальныя гаспадаркі, якія б маглі хутка перапрафіляваццa.



Шляхецкае вяселле, пачатак 1930-х гадоў



Бібліятэка ў адной са шляхецкіх сядзіб, сярэдзіна 1930-х гадоў

## Госць у дом — Бог у дом

Тыповы шляхецкі маёнтак у Заходняй Беларусі складаўся з дзвюх частак: двара, які быў атачаны паркам, а таксама гаспадарчых пабудоў, побач з якімі знаходзіліся зямельныя надзелы, лясы і лугі. У маёнтку жыў шляхціц разам з жонкай і дзецьмі, а таксама прыслугай. Акрамя гэтага, у доме маглі жыць бацькі гаспадара і іншыя сямейнікі. Добрай традыцыяй і адметнай рысай даваенных заходнебеларускіх фальваркаў была гасціннасць. Для гасцей у доме заўсёды трымаўся асобны пакой з прыгатаваным ложкам, а ў сталовай гатавалася дадатковая ежа. На стол выстаўляліся лепшыя стравы і гатункі спіртнога. Візіт гасцей быў сваістым выпрабаваннем для жонкі гаспадара, якая павінна была прасачыць, каб прыслуга ўсё зрабіла і не было аніякіх накладак.

## Слугі і работнікі

Шляхціцам міжваеннага ўзору не трэба было карыстацца з гарадскіх ці мястэчковых крам. Усім іх забяспечвала ўласная гаспадарка. Яшчэ са старажытных часоў у фальварках існавала асобная культура харчавання. Амаль адразу за познім сняданкам ішоў абед. Праз некалькі гадзін быў падвячорак, а за ім неўзабаве і вячэра. І падчас кожнага з гэтых «ланч-таймаў» стол проста ламіўся ад страў. Не дазвалялася спазняцца на калектыўную сямейную трапезу. Калі ў доме былі госці, пасля абеду ў сталовай ці ў «салоне» падавалі гарбату ці каву, мужчыны курылі сігары і пілі кан'як. Для гаспадароў маёнтку гатаваўся так званы «першы стол», а для слуг і працоўных — «другі». Часамі блюда з гаспадарскага стала даставаліся і прыслузе.

Колькасць слуг у маёнтку залежала ад таго, наколькі багатай была сям'я. У сярэдзіне 1930-х гадоў у шляхецкіх сядзібах на Заходняй Беларусі было ў сярэднім некалькі чалавек прыслугі — кухар, пакаёўка і пара слуг. Уладары маёнткаў на працягу дня займаліся вырашэннем гаспадарчых пытанняў, а больш дробныя шляхціцы працавалі разам з наёмнай працоўнай сілай на полі, млыне ці маслабойні.

Пры гэтым правай рукой гаспадара быў кіраўнік маёнтку, які арганізоўваў працу наёмных рабочых і сачыў за станам гаспадаркі. Што ж тычыцца наёмнай працоўнай сілы, то частка гэтых людзей працавала «на пана» на пастаяннай аснове і жыла ў доме для чэлядзі. Разам з тым шляхціц наймаў і так званых «падзёншчыкаў», якія атрымлівалі грошы за кожны дзень працы. Акрамя грашовага ўзнагароджання «пан» павінен быў карміць «парабкаў», пры гэтым, па ўспамінах жыхароў Заходняй Беларусі, якім давялося папрацаваць на паншчыне, харчаванне там было на вельмі высокім узроўні. Гэтаму не трэба здзіўляцца, бо добра накормлены работнік лепш выканае працу.

Падчас жніва работнікі не пакідалі поле, а харчаванне прывозілася непасрэдна на месца працы. У галодныя гады шляхціцы імкнуліся падтрымаць сваіх работнікаў, выдаючы збожжа і насенне з уласных сховішчаў. Летам за гэта сяляне павінны былі адпрацаваць у панскай гаспадарцы. Вялікім святам для гаспадара шляхецкага фальварка былі «Дажынкі». У гэты дзень багатыя землеўласнікі рабілі для сваіх сялян святочны абед і запрашалі аркестр. Свята ўраджаю, якое прыйшло з глыбіні стагоддзяў, шанавалася шляхтай, у чым праяўлялася павага да працы звычайных беларускіх сялян-палешукоў.

## Адпачынак, святы і выхаванне моладзі

У вольны час вясной і летам шляхта заходнебеларускіх ваяводстваў міжваеннай Польшчы рабіла пікнікі на прыродзе, пры гэтым гаявыя ці лесніцкі спецыяльна шукалі для гаспадароў зручныя месцы.



інтэр'ер адной са шляхецкіх сядзіб

Падчас сямейных святаў ладзіліся балы ці карнавалы. Найбольш вядомыя з іх адбываліся ў Нясвіжскім замку падчас ардынацыі Альбрэхта Радзівіла. У дзень імянін шляхціца перад домам ці ўездам у парк будавалася часовая святочная вітальная брама. У гэты дзень гаспадары запрашалі да сябе вялікую колькасць гасцей.

Важным момантам было выхаванне моладзі. Аўтарытэт бацькі не ставіўся пад сумнеў. Моладзь вучылі шанаваць сямейныя традыцыі. Хлопцаў стараліся адпраўляць на вучобу ў горад альбо на службу ў войска. Дзяўчыны вучыліся простаму жаночаму рамяству — шыццю, уменню гатаваць і ўвогуле быць добрай гаспадыняй.

Важным момантам у жыцці шляхецкіх родаў быў шлюб дзяцей. І тут, як і ў папярэднія часы, пад увагу прымалася не толькі каханне, але і паходжанне будучага мужа ці жонкі. Карацей кажучы, як і ў старажытнасці, важная роля надавалася радаводу. Шлюб у большасці шляхецкіх сямей пачынаўся блаславеннем маладых бацькамі і заканчваўся цырымоніяй у касцёле. На свяце прысутнічалі ўсе члены двух сем'яў.

Шляхецкія сядзібы ў шэрагу з дзяржаўнымі ўстановамі, войскам і паліцыяй, былі ў Заходняй Беларусі першым месцам, дзе з'явіліся машыны і матацыклы. Напрыклад, на 1 студзеня 1939 года ў Віленскім ваяводстве было зарэгістравана 275 машын і 290 матацыклаў, у Навагрудскім — 189 і 170, у Палескім — 217 і 358. Большасць з гэтых транспартных сродкаў належала менавіта буйным землеўласнікам і прадстаўнікам шляхты. Увогуле, на пачатак 1939 года ў Другой Рэчы Паспалітай налічвалася каля 20 тысяч шляхецкіх маёнткаў і палацаў.

…Другая сусветная вайна змяніла выгляд Усходняй Еўропы. У далучанай да БССР Заходняй Беларусі жорстка знішчалася ўсё, што было звязана з «панскімі маёнткамі і палацамі». Беларускаму грамадству ўнушалася, што шляхта ў Заходняй Беларусі эксплуатавала мясцовае беларускае насельніцтва.

Але калі адкінуць ідэалагічную мішуру, становіцца зразумелым, што прадстаўнікі шляхты ў большасці сваёй былі проста добрымі гаспадарамі, якія ўмелі зарабляць грошы і давалі магчымасць зарабіць гэта іншым. Да таго ж, гэтая саслоўная група была носьбітам непаўторнага старажытнага духу ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Яны былі апошнімі нашчадкамі тых некалі магутных дзяржаў. І пра гэта варта памятаць.

**Больш фатаздымкаў глядзіце на нашым сайце www.novychas.info**

УСПАМІНЫ

# СВАЁЮ ПУЦЯВІНАЙ

## ПАДРАСТАЮЧЫ, ДОМА

Арсень ЛІС

**Дзіцячыя гады няўзнак, зусім непрыкметна перацякаюць у падлеткавыя. Год ад года, з класу ў клас, як па нябачных прыступках, падымаешся патроху ўсё вышэй і вышэй. Заканчэнне пачатковай школы, пераступ у пяты клас — неўсвядомленая падзея ў жыцці дзіцяці.**



Акрамя вершыкаў, баек, простых апавяданняў, арыфметычных дзеянняў, пазнаных табой, пачынаеш спасцігаць прыродазнаўства, гісторыю, геаграфію... Ужо не адзін настаўнік, як раней, вядзе цябе ў свет ведаў. Педагогі-прадметнікі ў нашай Залескай сямігодцы былі людзі сталыя. Выкладчык роднай мовы і літаратуры Іван Варфаламеевіч Дудка і рускай Васіль Андрэевіч Южык яшчэ да рэвалюцыі скончылі Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Вышэйшую ж адукацыю ўжо па вайне здабывалі завочна, хто ў Мінску, а хто ў Маскве. Абодва з дзядоў-прадзедаў жыхары залескай ваколіцы.

Іван Дудка быў нашым суседам. Ад сядзібы Баўтруковых, яговых бацькоў, наш дом аддзяляў крайні рад яблыняў, пасаджаных яшчэ маім дзедам Петраком.

Першую сваю школку мой настаўнік заснаваў у 1920 годзе якраз у нашай, дзедавай хаце. Пасля заканчэння беларускіх настаўніцкіх курсаў у Вільні, тады малады настаўнік склікаў сход вёгхавічан, на якім вясковая грамада і даверыла яму асвету сваёй ды навакольных вёсак дзятвы, паабяцала сціплая матэрыяльнае забеспячэнне ды сталярскую ўспамогу змайстраваць лаўкі для вучняў.

Беларуская школка, арганізаваная Іванам Дудкам, праіснавала нядоўга — да вясны. Польская адміністрацыя знайшла повад яе закрыць, а настаўніка на некалькі месяцаў адправіць у турэмную камеру Віленскіх Лукішак.

У другога майго настаўніка Васіля Андрэевіча Южыка на пачатку педагагічная кар'ера складвалася нібы трохі спагадней. Ён пару разоў выступіў у віленскім беларускім друку па пытаннях стану беларускага школьніцтва пад палякамі. Пару разоў паказаўся нават у рэдагаваных тады Максімам Гарэцкім «Беларускіх ведамасцях». Рабіў тое асцярожна, пішучы пад псеўданімам. Галоўнае ж — маладому настаўніку ўдалося ўратаваць у скрутны час ад разгрому ў блізкім маёнтку родавую бібліятэку Агінскага.

Южык падгаварыў кемлівага ды жвавага юнака-аднавяскоўца Алеся Салагуба, дарэчы, будучага паэта, запрэгчы бацькавага каня. Некалькімі заездамі ў двор знакамітага земляка вывезлі кнігі, што заставаліся ў яго бібліятэцы без гаспадарскага прыгляду.

Пазней адратаваны кнігазбор, які складаўся пераважна з кніжак на французскай, польскай ды рускай мовах, ім удалося папоўніць беларускімі віленскімі выданнямі і адкрыць грамадскую бібліятэку ў роднай вёсцы Зарудзічы. Яна праіснавала па 50-я гады мінулага стагоддзя, духоўна сілкуючы мясцовую моладзь, у тым ліку майго дзядзьку Германа і майго настаўніка ў другім класе Сашку Быкоўскага.

На жаль, гэты ўнікальны кнігазбор, калі я ўжо быў студэнтам, стаў ахвярай пажару ў Зарудзічах. Помніцца, шкадаваў я зарудзіцкую бібліятэку. Уяўляў, як перажываў катастрофу тую паважаны ейны ратавальнік, мой настаўнік літаратуры.

Помніцца, разумею сёння, быў ён эмацыйны з натуры, часам запальчывы, узрыўны. Запальваў клас расповедам пра жыццё і смерць Пушкіна. «Сонца рускай паэзіі закацілася...» — казаў узрушана, аж мільганула на вачах слязіна. Мог сходу паставіць пяцёрку: «Нясі дзённік...» За простую адгадку, як тое было пры разглядзе пушкінскага верша «Помнік», дзе трэба было растлумачыць словы «*в подлунном мире*». Мог любімы настаўнік нечакана ўзарвацца з-за нейкай дробязі, але ўмеў данесці да вучняў сваё захапленне літаратурным творам.

У адрозненне ад Васіля Андрэевіча, Іван Варфаламеевіч на ўроках быў заўсёды роўны. Клаў футляр ад акуляраў на стол. Падымаўся ў паважны свой рост, прайшоўшы край пярэдніх партаў, пачынаў роздумна, няголасна:

*Паміж пустак, балот*
*беларускай зямлі,*
*На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,*
*Дрэмле памятка дзён,*
*што ў нябыт уцяклі, —*
*Удзірванелы курган векавечны.*

Калі настаўнік разбіраў зварот грознага князя да гусляра, яго наказ развесяліць гасцей і тлумачыў радкі: «Не пад мысль песня будзе каму-небудзь нам — Канапляную возьмеш заплату», было нечакана пачуць, што гутарка ідзе не аб малой, з канапляная зерне, аплаце, а пагрозе жыццю гусляра — метафарычным вобразе пятлі-шыбеніцы.

Тое, што ў Вётхаве мы жылі ў суседстве з Іванам Варфаламеевічам, неяк усё ж адбівалася ў яго адносінах да мяне. Не сказаць, каб ён вылучаў мяне сярод вучняў, хоць я быў старанным і не быў неслухам. Найболей ён пільнаваў мяне на пісьме. У шостым класе я пачаў, а ў сёмым асабліва падахвоціўся «закручваць хвасты» ў некаторых літарах. Іван Варфаламеевіч у пісьмовым хатнім заданні маім, праверыўшы, стаў чырвоным чарнілам адзначаць: «Літару «ц» пісаць так!» Адным словам, пільна прыглядаў за маім почыркам, патрабаваў вытрымліваць канон. Хоць, на жаль, не шмат у тым дамогся.



Арсень Ліс у 10-м класе

Быў знак увагі, калі праходзілі творчасць Якуба Коласа. Іван Варфаламеевіч пазычыў мне з уласнай бібліятэкі віленскае выданне з 1923 года аповесці Коласа «У палескай глушы». За тры вечары я адолеў яе, чытаючы тады пры карасінавай лямпе. Лабановіч з Ядвісяй неяк доўга трымалі мяне ў сваім палоне.

Трэцім удзячна-помным маім школьным настаўнікам быў Канстанцін Міхайлавіч Туцкі. Да нас у Залессе ён трапіў яшчэ да вайны, пасля заканчэння польскай настаўніцкай семінарыі. Родам быў дзесь з ваколіц Янава Палескага. Канстанцін Міхайлавіч гадоў больш чым на дзесяць маладзейшы ад сваіх калегаў, як педагог-прадметнік вылучыўся ўніверсальнасцю. Вёў у нас урокі геаграфіі, прыродазнаўчых дысцыплін, уключаючы хімію. Акрамя таго — пэўна, дыктавалася тое дэфіцытам настаўнікаў — нямецкую мову і чарчэнне.




А часам браў у рукі скрыпачку, усё ж настаўніцкія семінарыі ранейшых часоў давалі нейкую музычную падрыхтоўку будучым педагогам, і гэта было вельмі дарэчы. Помню Канстанцін Міхайлавіч выводзіў у класе простую і запамінальную мелодыю на словы народнай песні:

*«Раса жыта расіла,*
*Жонка мужа прасіла,*
*Йдзём, мужу, дадому. (2)*
*Нашы кароўкі мычаць,*
*Яны пізікі хацяць, —*
*Йдзём, мужу, дадому...»*

І мы класам цягнулі тую шчыра прачулую мелодыю. Мне асабліва цікава былі на яго ўроках геаграфіі аповеды пра незнаёмыя далёкія краіны, горы, рэкі, гарады — запаміналіся сходу, трывала. Паслухаўшы Канстанціна Міхайлавіча, не трэба было слібізаваць па падручніку. Праўда, як і ў падручніку па гісторыі, мне карцела прачытаць нейкі параграф наперад.

Канстанцін Міхайлавіч мог дасціпна пажартаваць. Не цураўся гумару часам і на ўроках. Дзеля разрадкі атмасферы мог пажартаваць на нейкую актуальную для класа, школы тэму. Затым абарваць агульную смяшлівасць словамі: «Хопіць гэтага добрага. На чым спыніліся?»

Мой настаўнік, пра тое я дазнаўся ўжо будучы студэнтам, не быў абыякавы да палітыкі.

У пачатку лета 1953 года, спаткаўшы Канстанціна Міхайлавіча на станцыі ў Залессі, я адчуў, што яму было вельмі цікава даведацца, як там было ўсё падчас пленума ЦК КПБ у Мінску.

На той час ува ўсіх саюзных савецкіх рэспубліках адбываліся пленумы кіроўнай і накіроўваючай, сказаў бы, на знак выпраўлення нацыянальнай палітыкі. Там, дзе сакратары ЦК саюзнай кампартыі былі прысланыя з Масквы, а ў Беларусі такая практыка цвёрда замацавалася з 30-х гадоў, цяпер павінны былі быць заменены на кіраўнікоў, паходжаннем з карэнных нацыяў. У Беларусі ж і пасля асуджэння сталінскай палітычнай спадчыны на чэрвеньскім пленуме ЦК КПБ такога не здаралася. Не асмеліліся — пэўна, дзейнічаў гіпноз рэпрэсіўных 30-х гадоў. Першы кіраўнік кампартыі Беларусі з беларусаў К.Т. Мазураў абраны толькі ў 1956 годзе.

А тым часам надзея калі не на беларусізацыю 1920-х гадоў, то, прынамсі, на паважлівыя адносіны да беларускай мовы на дзяржаўным узроўні, у таго-сяго з уцалелых беларускіх інтэлігентаў жыла. Мой добры настаўнік, шараговы інтэлігент, не быў сярод іх выключэннем.

Пазней, у гады навучання ў аспірантуры, паездкі ў віленскія архівы ды бібліятэкі я аднойчы нечакана заінтрыгаваў свайго былога настаўніка звесткамі пра «лабараў» на Палессі. Вычытаў пра іх як выхадцаў з Англіі ды Шатландыі, што былі ў нас з XVII стагоддзя на лясных распрацоўках. Пісаў пра тое ў 60-я гады XIX стагоддзя этнограф Ф. Стаўровіч у нарысе, выдадзеным у Вільні.

Звесткі пра лабараў, вядома ж, ад англійскага наймення «рабочы» зацікавілі старога настаўніка, як можна здагадацца, роздумам яго аб сваім радаводзе. Сапраўды, у абліччы К.М. Туцкага было нешта нетутэйшае. Магчыма, продкі яго прыбылі ў Беларусь з туманнага Альбіёну. Ён стараўся разгадаць гэту загадку. На жаль, у той час не было капійнай тэхнікі, і я не мог зрабіць копіі з ёмістага тэксту Стаўровіча. Адно пераказаў настаўніку агульны змест працы даследчыка.

Наогул жа сустрэчы з былым настаўнікам маім здараліся прынагодна, на зямляцкім грунце. З часам бацькі мае перабраліся з вёскі на станцыю, пабудаваўшыся непадалёк ад лякарні Мілашэўскага, якая ў паваенны час была ператорвана ў невялікую бальніцу. Прыязджаючы дамоў, я часта сустракаў Канстанціна Міхайлавіча. Апошнія гады жыцця нярэдка можна было ўбачыць яго каля брамкі ўласнага дамка, пабудаванага, дарэчы, за грошы ад шчаслівага латарэйнага выйгрышу.

Канстанцін Міхайлавіч, зычліва ўсміхаючыся, пытаўся, што чуваць у «шырокім свеце». Папрацаваўшы ў Залескай сямігодцы добрага паўвеку, меў што ўспомніць з тутэйшага жыцця, часам паіранізаваць асцярожна і акуратна над якой-небудзь грамадскай з'явай-праявай.

ФЭСТ

# КРАПІВЕНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ ЖЫВЕ

Юрка КОПЦІК

**Перафразуючы Марка Твэна, можна з поўным правам сказаць: чуткі пра смерць фестывалю беларускай аўтарскай песні і паэзіі «Аршанская бітва» былі крыху перабольшаныя. І тое чыстая праўда.**



Гэта можна было зразумець ужо толькі гледзячы ў прасветленыя твары з радасным бляскам у вачах аматараў беларускага слова і аўтарскай песні, што сабраліся 7 верасня блізу гістарычнай рэчкі Крапіўны. І хай гэта ўжо не тое традыцыйнае месца пры ўпадзенні Крапіўны ў Дняпро, і аўдыторыя злічваецца не сотнямі, як калісьці, а некалькімі дзясяткамі чалавек, і ўсё гэта больш нагадвае «кватэрнік» на прыродзе, але гэта ўсё той жа фестываль. Фестываль, які вымушаны існаваць у канспіратыўных умовах.

Гэткі культурна-гуманітарны супрацiў татальнай дэнацыяналізацыі Беларусі. І гэта таксама можна было без цяжкасці прачытаць у вачах у асноўным маладых удзельнікаў гэтага адпачынку на прыродзе — назавем яго так. Такая вось у нас склалася традыцыя — адпачываць на прыродзе ў гэты час на гэтым месцы.

Ну, калі на гэтым месцы дзённа і ночна стаіць міліцыя з машынамі, дык знойдзецца якое іншае месца непадалёк. Калі ўлада так баіцца гэтага месца і гэтай даты, тады што ж… І людзі збіраюцца не з такіх ужо і блізкіх месцаў ад Оршы. Нягледзячы на арганізаваныя з дзяржаўным размахам у гэты ж дзень розныя «Бардаўскія рыбалкі», нягледзячы на патрулі ДПС на дарозе Орша—Дуброўна, нягледзячы ні на што.

Хаця ў тым, што спявалі і казалі Андрэй Мельнікаў і Мікола Рудакоўскі з імправізаванай сцэны сёлета, якраз аніякай палітыкі і не было. Песні пра наша не дужа радаснае жыццё-быццё і пра сябе ў ім.

Прыехаўшыя наўпрост з беластоцкага «Басовішча» людзі яшчэ раз пацвердзілі ўжо даўно ўсім вядомую рэч: на «Басовішчы» з кожным годам усё менш застаецца месца беларускім выканаўцам. Паводле саміх гледачоў, «Басовішча–2013» было на 70% польскім. Ну і дзе ж тады час і месца беларускаму слову і песні, калі і тут квітнеюць адны славянскія базары, а тое, што адбываецца цяпер у Маладзечне, ніяк, апрача толькі як прафанацыяй самой ідэі, не назавеш?

На Украіне на дзяржаўным узроўні створаны аргкамітэт па святкаванні ў наступным годзе 500-годдзя Аршанскай бітвы, у нас жа ўсё яшчэ сумняваюцца: адзначыць гэтую дату гісторыка-краязнаўчай канферэнцыяй на ўзроўні Аршанскага раёна — ці не занадта будзе? Канешне занадта, спадары чыноўнікі! Таму чым так, дык лепш ніяк.

А барды — пераканаяны — і праз год збяруцца на традыцыйны адпачынак на Крапіўне, каб праспяваць свае новыя і ўжо добра вядомыя многім песні, каб пагаварыць з сябрамі, якіх год не бачылі, нарэшце, каб выпіць па чарцы «Усяслава Чарадзея» за перамогу. Дарэчы, самы традыцыйны тост.












Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1115

Падпісана да друку 13.09.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.